*Мар'ян Дукса*

---

# ЗАСНЕЖАНЫЯ ЯГАДЫ



*Вершы і паэма*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1989

ББК 84 Бел 7
Д 81

Герои стихотворений сборника — наши современники: сельские механизаторы, полеводы, учителя. Автор создал их психологические портреты, показывает их богатый духовный мир. Поэма «Начлег на разгалай сасне» переносит читателя в пятидесятые годы — переломное время в жизни западнобелорусской деревни.

Д $\frac{4702120202—012}{М 302(03)—89}$ 50—89

ISBN 5-340-00194-6



## *Жытняя паляна*

Усхваляваны жытні плёс
на лета ўсё, а не на трохі,
прыпаў з трымценнем да бяроз,
да мяккай маладой чаромхі.

Нібы смакуе спакваля
цяпло спагады і падтрымкі,
перажываючы галля
густыя шчырыя абдымкі.

І ў час світальны каласы,
каб пацяжэць і ў зерне выйсці,
п'юць прагна кропелькі расы,
ледзь дакрануўшыся да лісця.

У хлебным водарным гаі,
каб радасць зліць жыцця-суполкі,
злучаюць пошчак салаўі
з задумным свістам перапёлкі.

На зелень, нібы на абрус,
прамені сонейка цярушыць...
Вось гэтай яснасці саюз
мне так не хочацца парушыць.

Адчуўшы спеў сэрцабіцця,
прысяду, ціхі ад лагоды.
Благаславёны час зліцця,
яднання збожжа і прыроды!

## *Тварэнне радасці*

*Двойчы Герою*
*Сацыялістычнай Працы*
*старшыні калгаса*
*«Савецкая Беларусь»*
*У. Л. Бядулю*

Не голых фраз
сухая траскатня,
не цяга
на трыбуну узабрацца —
усіх тут вабіць
на пачатку дня
глыбінны покліч
хлебаноснай працы.
Не той,
калі араць, садзіць, касіць
мы па загаду цвёрдаму
павінны,
маўчаць і ведаць:
над спіной вісіць
караючая
пуга дысцыпліны.
Не той,
калі твой асабісты ход
пазначаны
ад вешкі і да вешкі.
А плён які —
ўмалот ці недарод —
не тычыцца цябе —
маленькай пешкі...
А клопат тут
ва ўсіх, ва ўсіх — адзін:
да добрых спраў
сваю душу прыкласці

і родны кут,
калі яму ты сын,
зрабіць прыдатным
для людскога шчасця.
Як найхутчэй
для цёплых баразён
аддаць свой клад
любові і гарэння.
Галоўнае —
не рапарт у раён,
а чалавечай радасці
тварэнне.

## *Дабрыня*

Яна вяршыць не ўмее строгі суд —
не можа мяккацеласці пазбыцца.
Яна — як пры падзенні парашут,
не дазваляе да крыві разбіцца.

Не кавяла для кволых і калек
і не бяздзейнай слабасці прытулак.
Ад мудрасці яна, што чалавек
няўдачлівы павінен мець ратунак.

Бо ў час напасцяў, у пару нягод
душа ад безнадзейнасці заные.
Тым больш не ўсім жа дадзена: у ход
пускаць заўсёды локці прабіўныя.

Не ўсім прарвацца праз замкнуты круг
наканавана. Цвёрдай волі — мала...
І са шляху, хоць ёсць жалезны дух,
не кожны ссуне ўласныя завалы.

Жыццё не можа без яе і дня,
век сённяшні баіцца страціць ласку.
Глядзіць у вочы шчыра дабрыня,
разбітым крылам робіць перавязку.

* * *

Няхай не ўсе мне дастаюцца промні.
То праўда: дзень мой не заўсёды гож.
Бывае цяжка, ды заўсёды помню:
мне кепска зараз, а камусьці горш.

Настолькі шар зямны зрабіўся родным,
што пра сябе забудзешся ў жыцці —
о як мне накарміць усіх галодных,
ці хопіць сілы хворых абысці?

Жывога плачу хор яшчэ вялізны,
вакол — бяды марзянскі перастук...
Сумую я, а недзе стогне трызна
і, пэўна, нехта курчыцца ад мук.

Спалілі хлеб людскі вятры сухія,
а там — землетрасенне прагуло,
а там — разбушавалася стыхія —
ажно з карэннем вырвала жытло.

Вялікі спіс і пералік напасцяў,
яны і ў свеце, і ў маіх грудзях.
Таму свае маленькія няшчасці
нашто ўзнімаць перад людзьмі, бы сцяг.

## *Зара надзеі*

Не хутай твар свой борздзенька ў адчай,
што выслізнула здрадлівая ўдача.
Праз цяжкі сум прайдзі, як праз ламачча
заўжды праходзіць малады ручай,
хоць сэрца, можа, яшчэ доўга плача.

Хоць і гусцеюць прыцемкі ў душы,
твой цёплы жар ад ветру халадзее,
парыўна дзьме з-пад лёсу-ліхадзея —
ты будзь цярплівым і не патушы,
ў сваіх вачах трымай зару надзеі.

І ў слотны дзень — пры самазабыцці —
прыветлівыя фарбы на бяросце...
На грунце мяккім кволасці і млосці
не дай журбе ў паглядзе прарасці,
а ўслед за ёй — разлапушыцца злосці.

Глядзі, сваю хаду не запаволь,
сябе аднойчы палічыўшы пешкай...
А цяжка — з лёсам пагуляй у снежкі.
Зацерушы сняжынкамі свой боль,
а боль чужы гасі сваёй усмешкай.

* * *

Уклаўся нанач вецер за вуглом,
павісла хмара снежная над ліпай.
У лёгкі змрок нырнуў сіроцкі дом,
палыпаўшы апошняй жоўтай шыбай.

Ды толькі мулка стоеным плячам,
жалезны ложак — неспагадны нейкі.
І не ўдаецца ўзбуджаным вачам
адразу каб свае замружыць вейкі.

Чаму такі зусім не клейкі час —
не склеіць вочы для пары вясёлай...
З нябёс маўклівых у чарговы раз
са сном салодкім позняцца анёлы.

З апошніх сіл стараюцца яны
хутчэй дапасці да аконнай рамы
і ўсім раздаць прынесеныя сны,
дзе будзе вобраз запаветнай мамы.

* * *

Ну як гэта хуценька ўсё-ткі зрабілася.
Згарэла маленства,
юнацтва з'явілася —
і вось ужо сталасць блукае на выпасе.
А восень у вечнасці просценька выпісаць.

Як лёгка, як спрытна ўсё ладзіцца-клеіцца.
Здаецца, зара твая першая квеліцца.
А вось ужо кветкі прыносіш з аселіцы,
а вось ужо сын твой старанна нядзеліцца.

І праўда ж, якое жыццё гэта дзіўнае.
Нядаўна ж спяваліся песні радзінныя,
і мары ссыпаліся ў глебу спажыўную.
А сёння дагналі мелодыі жніўныя.

* * *

Толькі б хаця на адзіны дзянёк —
нельга? —
няхай сабе хоць на хвіліну
кінь мяне, лёс, з гэтых цяжкіх аблок —
з сённяшніх дзён у былую краіну.

Тую, дзе сонейка пырскае ў твар,
мякка чапляецца лісце за шчокі.
Зноўку канікулы, лета разгар,
сталы мой час яшчэ надта далёкі.

Хуценька-хуценька перажыву
самае большае зноў утрапенне.
Лягу, бяздумны зусім, на траву,
песню спяю, што не мае наймення.

Лёс мой, хачу, разумееш, хачу
шчасця адрэзаць вялізную скібу.
Босыя ногі ў ваду апушчу,
дзе паядналіся неба і рыбы.

Кожная птушка, што пырхае ўслед,
радасці ўсёй ад мяне не хавае —
славіць мае уваходзіны ў свет,
цёплы
і дзе яшчэ маці жывая.

* * *

І не апомнішся як след,
калі цябе падхопіць штосьці.
І твой узбаламуціць свет
круты віхор раптоўнай злосці.

Адкуль жа — божа барані! —
такая кругаверць сляпая?
Твае ўсе горны дабрыні
бязлітасна параскідае.

Асядзе пыл, прыглухне шум,
заб'ецца зноўку сэрца звонка.
І будзе толькі лёгкі сум,
што патрывожыў вецер звонку.

Ён прашумеў і дзесьці знік.
І прыйдзе, мусіць, азарэнне,
што злосць — ніякі не двайнік:
яна — прышэлец без карэнняў.

Адразу думак ледзяшы
да сонца хочуць прыхінуцца.
І як жа хораша вярнуцца
у свой звычайны стан душы.

* * *

Зноўку, зноўку сягоння
паўтараецца сон:
я прачнуўся ў вагоне —
адчапілі вагон!

Ні душы на пероне,
хоць сярэдзіна дня.
Я адзін у вагоне,
а вакол цішыня.

Я вагон разганяю,
каб дагнаць цеплавоз...
Быў не раз я ў адчаі:
адчапілі мой лёс!

Горыч, крыўда й бяда ўся
ў сэрца хлынуць парой —
час даўно ўжо схаваўся
без мяне за гарой.

Часе, часе, чаму ж ты
даў адну цішыню?
Ах, дарэмныя муштры —
я цябе даганю!

За гарамі-лясамі,
за далёкай мяжой —
і калі не нагамі,
то, напэўна, душой!

## *Выпускныя экзамены*

Ці святкаваць свой першы перавал?
Якое ззянне кветкавай даліны!
На жаль, свабоднай ні адной хвіліны.
Раскоша легкадумная — прывал.
Не лёс яшчэ — шматлікія цагліны.

Быў сонечнай размінкаю урок,
гайдалі сэрца калыханкі-кніжкі.
Жаданая цяпер не перадышка —
у новы дзень спружыністы рывок,
дзе зорны дождж і помслівыя шышкі.

Гарыць юнацтва медапосны сад,
дзе так бунтоўна спее паўналецце,
кіпіць між лісця захмялелы вецер.
Ні кропелькі не верыцца, што град
дзіцячых мрояў пасячэ суквецце.

У вузел пругкі волю завязаць,
спаліць былую маску шалапута,
напружыцца і развярнуцца крута
і хоць бы сабе прыступам узяць
у рэшце рэшт пагорак інстытута.

Своечасова стрэціць у жыцці
чыю-небудзь спагаду ці апеку —
за ўдачай мройнай гнацца, як па трэку...
Ці ўдасца толькі з поспехам прайсці
па конкурсу на званне чалавека?

* * *

Прыкінь і падумай,
які ты шчаслівы —
багаты ўладальнік
палёў узараных...
Ты ўпэўнены сейбіт
дагледжанай нівы,
дзе пні выкарчоўваў
твой прашчур старанны,
што век свой кароткі
гультайствам не бэсціў.
Штодзённа,
як з даўняга часу вялося,
не так для сябе —
для нашчадкаў ён песціў
сваёй дабрыні і надзеі
калоссе.
Уведаць жадаеш —
і гэтым заняты,—
чаму ўсе прароцтвы дзядоў
не збыліся,
аматар і зух
выпрабоўваць зярняты,
зярняты,
што ў спадчыну нам дасталіся.
Як сталася,
што пад пагрозай світанні
і сонца?
Імгненне — і згінуць адразу...
Збянтэжаны,
цяжкія ставіш пытанні.
А мусіць, галоўнае —
нашы адказы.

* * *

Купаюцца зоркі ў паўночнай вадзе...
І тое ж — мо ў іншай галактыцы дзесьці...
Сталіца, правінцыя ў космасе — дзе?
Куды наша круглае дзіва аднесці?

Ну вось па якой па дакладнай шкале
нам вызначыць —
зноў з дапамогаю зорак:
у цэнтры культурным ці толькі ў сяле
знаходзіцца родны зялёны падворак.

Сабе неаднойчы даваў я зарок,
што весці не буду дарэмныя спрэчкі...
А раптам Зямля — малады хутарок,
дзе ходзяць паважна каровы, авечкі,

ёсць трохі заводаў і трохі машын...
Ды звяга абрыдла усім хутарская.
Звычайная беднасць да новых вышынь —
ў сталіцу касмічную нас не пускае.

Дзе ж тая сталіца, дзе многа навук,
дзе розум адзін — ні асла, ні вароны,
дзе ўсё вырашае мо нейкі павук,
што мае даўно ужо мозг электронны?

## *Дарога*

Пакручастая наша дарога
хоча змераць сябе падрахункамі.
Фантастычна як зроблена многа
ў нашым доме дзядамі і ўнукамі.

Нашых сённяшніх поспехаў лісце
у касмічны прабілася вакуум.
Пачыналі разбег свой калісьці
ад слупоў з нулявою адзнакаю.

На гарбе дзень свой заўтрашні неслі —
быў ён марай людской пазалочаны.
На бетоне густым і на песнях
гарады мы ўзвялі на абочынах.

Колькі часу ў карычневай багне
патаналі, а ўсё ж яе знішчылі.
Нават зараз зямля наша пахне
утравелымі папялішчамі.

Каб жа толькі чужая навала
нашы светлыя крэсліла вынікі —
нам уласных па горла ставала
самых дзіўных і жорсткіх выбрыкаў.

Як жа шкодзілі нам завіхрэнні!
Ран у душах яны столькі вырылі!
Самых лепшых-найлепшых з карэннем
з нашых вёсен бязлітасна вырвалі.

Мы з надзеі, адчаю і болю
вось такімі высокімі выраслі.

Ах, як сонечна верыцца: болей
не паўторыцца тое, што вынеслі.

Свежай радасцю сэрца грукоча —
нас яна з новай сілай паклікала.
Нашы добразычлівыя вочы
усміхаюцца свету вялікаму.

## *Перачытваючы «Узнятую цаліну»*

Няма жадання патураць бядзе.
Бядзе, якую спарадзілі людзі.
Дзе зайздрасць ёсць,
там літасці не будзе.
Плач горкі — «раскулачванне» ідзе...

Прадстаўнікі сялянства і улад,
сярдзітыя — няхай іх бог бароніць —
якраз паспелі куфар распатроніць,
ануч сямейных выкінулі шмат.

Вярхоўны суд ім сёння па плячы
над хутарской жанчынай-чужаніцай —
сцягнуць з яе ўсе лішнія спадніцы,
тым самым яшчэ болей дапячы!

Хаця казачкі той уся віна,
і ад чаго сваё начальства ў гневе:
хлеб на стале і два быкі у хлеве,
адрэз сукна і трубка палатна.

Сляпая бура круціць не на жарт
усё нутро заклеймаванай хаты.
Зляжалы пыл да сталявання ўзняты,
хістае сцены несусветны гвалт.

Б'е гэта ўсё па сэрцы і вачах,
у далячынь ляціць мая нязгода.
Мне так дзяцей, дзяцей маленькіх шкода,
што сцяліся пужліва па кутках.

А іх якой жа аблажыць віной?
Як растлумачыць мне старэйшым вучням?

Маўчыць салідна сённяшні падручнік,
які, вядома, складзены не мной.

Спрабуй прыдумаць, па якой шкале
мне апраўдаць усё былое глупства,
каб не закрэсліць чалавекалюбства
у колішняй эпохі на стале.

## *Першыя калгаснікі*

Ну хто цяпер былое пераверне
па-іншаму і перайначыць неяк?
А ўсё ж цікава: толькі жменька зерня
па працадзень і толькі пяць капеек.

Вось і наладжвай ты вяселлі-балі,
частуй дзяцей блінамі з верашчакай,
калі, бывала, нават працавалі
цалюткі год за невыразны «дзякуй».

І ўсё было, як кажуць, шыта-крыта,
ніхто не кляў парадак неразумны.
І нават спраўна сеялася жыта,
ішлі снапы своечасова ў гумны.

Пад небам не ляжала збожжа гурба
і не гарэла, як пясок на Марсе.
І неяк выбіралася ўся бульба,
лён церабіўся, слаўся, падымаўся.

На кожны раз было за што абуцца,
па-людску з'есці, адагнаць хваробу.
Ды да зямлі спіною павярнуцца
не раіла сумленне хлебаробу.

Ім верылася: зменіцца на свеце...
Як доўга, доўга перамен чакалі.
А гэтым часам безразважна дзеці
ад іхняй крыўды ў горад уцякалі.

## *Сельсавецкі агент*

Здаецца мне, што ў пяцьдзесят другім
на мой падворак далятае: «Шкура!»
На плот апёрся наш сусед Яўхім
і на «гасцей» сваіх глядзіць панура.

А госці тыя — двое панятых
і зух-агент, што спаганяў падаткі,
шукаюць грошы ў лахманах старых —
у кожным схіле выпадковай складкі.

Хоць ты забі, а грошай тых няма,
хутчэй за ўсё іх не было ніколі...
«Ну, шкура-контрык, пахаваў дарма.
Адказвай — дзе, пакуль яшчэ на волі.

Тваю ж упартасць — а яна не прэнт —
сагну ў дугу, а я стрымаю слова...»
У рэшце рэшт раз'юшаны агент
апісвае апошнюю карову.

Запісвае ёй сумны прыгавор
сваім алоўкам, што змачыў у сліне...
Не некалі, а заўтра ж родны двор,
як арыштантка, назаўжды пакіне.

Стаіць яна наўпроць дзяцей худых,
ёй голас адняло, а дзецям мову...
Глядзіць вачамі сумнымі на іх,
а дзеці пазіраюць на карову.

А той агент — тутэйшы чалавек:
«Карміць дзяржаву — не тваю галоту...»
Але нашто дзяржаве гэткі здзек?
Дзяржава ж гэта румзала ля плота.

## *Інспектар*

Ужо распух разгорнуты канспект,
у ім урок мой цэлы — слова ў слова.
(Нібыта я — той формелны суб'ект,
якога трэба ўведаць дэталёва.)

Яшчэ не да канца канспект распух —
рыпіць пяро на самым асяродку.
Фіксуецца мой кожны ўздых і рух,
пагляд вачэй, вакол стала паходка...

У сшытку тым агульным, на палях,
да запісу стараннага ў прыдачу
ён ставіць, нібы раздзімае страх,
пытальнікі адны — здалёку бачу!

І не за дзецьмі — я за ім сачу:
што думае, што скажа — вось праблема.
І нават скачуць літары ўваччу,
язык здранцвеў, і блытаецца тэма.

Як разумеюць вучні хваляванне
маё, хоць дзіўна ім, што я не бог...
Стаю, стаю на цёплым скрыжаванні
іх позіркаў. І кожны б мне памог!

Яны чакаюць: хутка на сцяне
званок зайграе музыкаю з раю...
Як ім не знаць, што іменна мяне —
зусім не іх! — інспектар правярае.

## *Чарнобыльскія перасяленцы*

На свежы дах спусціўшыся з гары,
гуляюць сонечныя пратуберанцы.
Лічы, усё даведзена да глянцу:
веранды, вокны, сцежкі на двары.

Ёсць унутры серванты і трумо,
усё начынне мае выгляд боскі...
Ды на абліччы збудаванай вёскі
ляжыць бяды пякучае кляймо.

Цвітуць півоні на ўзвышэнні град,
буяе пышна агурочнік чыйсьці —
паверх пялёсткаў, маладога лісця
бяжыць, як босы сірата, пагляд.

Стаў вельмі грукатлівым часу бег,
а плыў жа ціха, нібы па рацэ, ён...
Знікае смех, бы хтосьці па рэцэпту
стаў выдаваць калісьці танны смех.

Прайсці журбе ў вароты шмат прасцей,
бо радасць раптам страціла адвагу.
Але было б зусім, напэўна, блага,
каб не гучала — музыка дзяцей!

* * *

І рэкі спрамлялі,
і душы спрамлялі,
галоўнае —
нелі яшчэ пастаралі.
Калі ж асушалі —
і як асушалі! —
таксама мы дружна спявалі,
бы ў шале.
А шлях пакручасты
віталі не часта —
а можа, дазвол
не давала начальства?
О, як не хапала
звычайнай адвагі
хоць скрыпкай уславіць
жывыя зігзагі.
Як рэкі спрамляюць
ці душы спрамляюць —
мы знаем:
яны не жывуць —
паміраюць.

## *Дата пад праўдай*

Нам ісціну
у кокан шаўкапрада
не заматаць навек.
Праз дым смугі
ўсплывае на паверхню ўрэшце праўда,
разносячы вялікія кругі.
Пайшоў уніз з яе
жалезны саван,
і шчыльны змрок
спаўзае на бакі,
хоць нешта нам даказваюць гнюсава
яго старанныя вартаўнікі.
У стойкай праўды
грозны лёс салдата —
за свой рубеж
ахвяраваць сабой.
Пад ёй стаіць
не сённяшняя дата,
а тая,
калі быў акопны бой...
Хто мог падумаць
аб яе падзенні?
Зямлю абтросшы,
цвёрда паўстае...
Выходзяць нам насустрач,
не, не цені,
а зноў жывыя рыцары яе!

## *Понцій Пілат*

Ах, які ён марудліва-хісткі, зусім не настырны!
Пэўна, божыцца ў нечым,
каму яна трэба — бажба...
Звечарэла даўно, і вячэра дарэшты астыла,
а ён ходзіць і ходзіць —
не скончыцца гэта хадзьба.
Што ён скажа-абвесціць нарэшце
настойлівым катам?
Можна выйсці на ганак і рэкнуць:
«Чакалі дарма!»
Ён упэўнены толькі ў адным:
не знайшоў вінаватых,
бачыць бог і сумленне яго — вінаватых няма.
Зло шуміць ля варот, тупаціць,
патрабуе ахвяры,
пагражае камісіяй нейкай — не кажа якой...
І нарэшце крануўся,
хоць цень утварыўся на твары,
і ступіў, перамогшы ваганні, у ванны пакой.
Хай жа будзе, падумаў, такі,
раз ім хочацца, вынік,
будуць радыя, чэрці,
што так парашыў я нябось.
Засіпеў, загудзеў,
забурчаў на ўсю моц рукамыйнік,
палілася на рукі вада... І сказаў ён: «Ну, вось...
Зараз выйду на ганак высокі —
хай будзе што будзе,
як там бога —
начальства і ўсіх крыкуноў не гнявi...»
І глядзелі, замёршы, вачамі вялікімі людзі
на стэрыльныя рукі з маленькаю кропляй
крыві.

* * *

Усё даводзіць трэба да канца,
не меркаваць: часіна не настала...
І мала ўсё ж: адпрэчыць ад вянца
тырана, ноччу звергшы з п'едэстала.

І недарэчна ўсё ж: у судны дзень
яго саджаць у крузе абаронцаў.
Паказваць пальцам на ягоны цень,
а твар яго пакінуўшы на сонцы.

Пра горкі час цяпер душы трубіць,
калі вырошчваць трэба ўласны кветнік.
Своечасова трэба ўсё рабіць,
не завяшчаць нашчадкам цёмны сметнік.

Хай будзе зло, што лезла на таран,
без фалдаў памяркоўнага убранства.
Не для таго ж нам гаварыць: тыран,
каб медзь заслуг шукаць каля тыранства.

## *Рэтраграды*

Я дзверы адчыняў,
хацеў візіт свой выкленчыць.
Рот раскрываў, але
мне гаварылі: «Выклічам».
Я жаласна казаў,
што з тэрміновым клопатам.
Ды сакратаркі ўсё ж,
відаць, з вялікім вопытам...
Панурліва сядзеў,
сцярог чаргу з пашанаю.
Нарэшце я папяў
туды, дзе ўсё рашаецца.
«Хто даў загад? Чаму
мяне раптоўна звольнілі?»
Як слухалі, чамусь
кудысьці ўсё пазвоньвалі.
Хіхікалі і хмыкалі,
сваё нешта запісвалі.
А тэлефоны ўсе,
як пацукі, папісквалі.
Паслухайце, кажу:
я з праўдаю і вераю...
Выходзіць, што прыйшоў
зусім не з той папераю?
«Тады яна паперына,
калі пяць раз заверана.
Чаму вось не заверана —
не скажам. На праверана...»
Нашто сваё жыццё
на стол вам, як на выстаўку —
навошта цэлых дзве
даваць характарыстыкі?
Я сам... цяпер... душу —

наросхрыст, гляньце...
«Містыка!»
Я зноўку гаварыў
аб нейкай там законнасці.
Глядзелі на мяне
з лагоднай падазронасцю.
З усмешачкай, маўляў,
ўсё ведаюць, нячысцікі —
ох, вылезуць праз бок
нам праўдалюбцы-шызікі;
вось гэткія раскратаюць,
аж войкнеш, дэмакратыю —
аб ёй, аб дэмакратыі,
хай трубіць тэле-радыё,
якое дурняў радуе...

## *Мужчыны ў школе*

О як іх тут бязбожна малавата —
куды ж яны падзеліся, куды?
І нават немаленькая зарплата
даклікацца не можа іх сюды.

Вынослівы, упарты і культурны —
куды ж іх род ушанаваны знік?
Пранёсся калідорам фізкультурнік,
пабег кудысь ваенны кіраўнік...

Глядзяць услед настаўніцы шчасліва —
хоць гэтыя павысяць тонус іх!
Ну вось... завёўся хімік, як надзіва —
хлапец у акулярах рагавых.

Не знаю я, які там план назаўтра
звіе педагагічны інстытут...
Мужчыны ў школе — нібы дыназаўры,
што нейкім цудам ацалелі тут.

Нясуць святло ахвярныя іх твары
у яркім арэоле класных дам.
Іх рэдкія жывыя экземпляры
усё-ткі сустракаюцца сям-там.

Уладу ўсю настаўніцы прыбралі —
даймае старшакласнікаў мігрэнь:
частуюць дома маці іх мараллю —
і ў школе тое самае штодзень!

Мужчыны, дагукацца як да вас,
на добры шлях падбіў каб дзень наступны.
Паходкай цвёрдаю ідзіце ў клас —
жанчыны месца вам галантна ўступяць...

## *У кнігарні*

Настойліва смутак варушыцца ціхі,
і вочы мае апускаюцца ніц.
Нібыта заложнікі, нерушы-кнігі
глядзяць безнадзейна з казённых паліц.

Няўжо яны так і не трапяць у ранец,
асуджаны век тут стаяць пры сцяне,
і іх беласнежны навошчаны глянец
ніколі чужая рука не кране?

Што думаюць гэта і вёска і горад?
Чытаць мо адвыклі яны пакрысе.
І кніжны нарэшце закончыўся голад —
даверху забітыя секцыі ўсе.

Ці, можа, старонкі маною набраклі,
прапахлі душком фарысейскай нуды.
Ці, можа, іх кропелька мудрасці бляклай
старанна разбаўлена бочкай вады.

## *Дамок Мацея Бурачка*

Штосьь грукат у Мацея Бурачка,
піла звініць у гонар даўняй песні.
Затупацелі на падворку цеслі —
прыйшла чарга і да яго дамка!

За столькі вёсен засвіціўся гонт,
ужо з машком густым перамяшаны.
Не толькі даху — і людской пашаны
доўгачаканы наступіў рамонт.

Пара сюды гравійку пасцяліць,
падфарбаваць пявучае бярвенне —
падшаляваць, падцыраваць сумленне
і вочы нашай памяці падшкліць.

Не бедныя лясамі і зямлёй —
не сорам раскашэліцца на касу.
І так зашмат прашляпілі мы часу
з-за беларускай сціпласці сваёй.

У рэшце рэшт — народзіцца музей!
Запозненая шыльда загарыцца,
каб нашай першай скрыпкай ганарыцца.
І каб было ўсё так, як у людзей!

## *Бацьку*

Аб чым ты думаў, гледзячы ў ваду —
у белы кіпень акіянскай пены?
Ты верыў: надыходзяць перамены,
прыемны час перахрысціць бяду.

Дамоў не толькі стомленасць валок.
Бо дзесяць год сярод сырых баракаў,
падзякаваўшы лёсу-небараку,
штось падсыпаў у цёплы кашалёк.

Ды ўвесь, да цэнта, запаветны збор
за пах зямлі аддаў гуляку-пану.
Не раем стаў, а хутарскім капканам
жаданы пляц сугліністых разор.

Ды новы час прабіў, нібы пярун.
Дзе цвіў спакой, адзін застаўся прысак...
Бы ў клетку, ты ўляцеў у «чорны спісак»,
што дзёўб тутэйшы верхавод-каршун.

Той верхавод да трох не гаварыў,
ўставаў — рыпелі боты і рамёны...
З маўклівай згоды вобласці й раёна
на хутар твой ён кіпцюры вастрыў.

Ты воз сялянскі тузаў, як бурлак,
уласны горб служыў замест машыны...
Іначай думаў тэарэтык шыльды,
нялюдскай шыльды «Ёсць зямля — кулак!».

Разбойны гвалт ці недарэчны лёс?
Ці проста плата за не т ы я мары?
За ўсё найгорш, што ты загадку кары,
як цяжкі крыж, у іншы свет панёс.

## *Утрапенне*

Ну, хлопча, самазвал табе ганяць
да вечара — заплоцім удвайне,
бо жвіру тон, напэўна, дваццаць пяць
вось гэта прорва-лужа праглыне.

Крышы, бульдозер, застарэлы пень,
падрэж бугор даўнейшы, як касой —
калдобістую вуліцу праз дзень
зрабіць аэрадромнай паласой!

Парваць асот і быльнік ля варот,
дзяркач пусціць і граблі па двары.
Фарбуй жа, цётка, ушарэлы плот,
не маеш фарбы — вось яна, бяры!

Падбіць, каб дзірак не было, фасад.
Ты чуеш, дзед? Пасля сваё даспіш.
Шчыльней прымкнуць у хлеве парасят,
гусей, курэй ды і сабак — туды ж!

Дамовіліся — вас нібы няма.
А дзе вы ёсць? У полі найхутчэй!
І сапраўды: не швэндацца дарма,
апроч дзяцей, старых — у бок з вачэй!

Яшчэ раз паўтараю: чысціня!
А не — адказваць будзеце за бруд.
...Чаму ж такая спешка й мітусня?
Прыйшоў сігнал: міністр едзе тут...

* * *

У марыве часу былое захутаў,
маленства схаваў у імшарыне дзён.
А сніцца і сніцца мой колішні хутар,
нядобры такі паўтараецца сон.

Мяне сярод ночы ўздымае ён часта.
Зноў бачу, як вочы заплюшчу крыху:
вяскоўцы, паводле загаду начальства,
з матулінай хаты здзіраюць страху.

Я ведаю добра, усё мне вядома:
загадана ў вёску ссяляць хутары.
А хто не паслухае — здзёрці салому...
І вось завіхаюцца рукі ўгары.

Ужо агаліліся шэрыя латы,
апошняе смецце ляціць на штыкет...
Праз дзесяць хвілін застаецца ад хаты
уздыблены прывід, пачварны шкілет.

Ад жалю камяк не каўтаецца ў горле,
малы хоць, а жыць не хачу на зямлі...
Няпраўда: хацелі здзіраць, ды не здзёрлі —
сядзелі, курылі, а потым пайшлі.

Зноў румзаць ля тога, далёкага дома —
мне гэтага толькі яшчэ не стае...
Навошта начамі былая салома
цярушыцца зверху на плечы мае?

## *Было*

Як ні круці, было ўсё гэта.
У дні «працоўных перамог»
стаўлялі радасна буфеты
на свежы чэрвеньскі мурог.

І пачынаўся бойкі гандаль.
Стаяў шкляны і звон і стук.
Нібы жанглёр, кідала Ганка
бутэлькі на канвеер рук.

Зграбала потныя паперкі
у сінтэтычныя мяшкі,
шпурнуўшы здачу на талерку —
якія-небудзь медзякі.

Было: не пляшку — скрынку неслі...
Крычалі: «Кілька — любата!»
Пасля грымеў пачатак песні
амаль з-пад кожнага куста.

Да забыцця, без нейкіх мерак
мы балявалі, як паны.
І неслі ў цяжкі панядзелак
свае галовы, бы званы.

Адкуль жа ён, прыбытак, будзе —
з нічога хлыне, як рака?
Што мог ён даць — «працоўны
будзень»?
Дрыжалі рукі ля станка!

І ні адна прыпомніць хата
паўночны гвалт пад лівень слёз...

Як часта грукала расплата:
неўроз, цыроз, зламаны лёс...

Яшчэ б жылі са звычкай злою,
калі б не ўзяў за шкіркі час.
Змаглі б мы кінуцца ў былое,
каб раскілзалі зверху нас?

## *Функцыянер*

Незадаволены бяздонна
(хоць спіцца соладка начамі),
на падначаленых штодзённа
глядзіць сцюдзёнымі вачамі.

Ён любіць сноўдацца, як пешка,
калі хто «зверху» ў госці шусне...
Тады лагодненькая ўсмешка
пачціва плавае на вуснах.

І так вось час паўзе ягоны,
жыве, як быццам у музеі,
у ролі міні-фараона
або лісліўца-фарысея.

Не меўшы шчырасці і ласкі,
ў пенсійны дзень пасля прамоў
да дзірак зношаныя маскі
пацягне стомлена дамоў.

## *Наконт пацяплення*

Ах, столькі ўздымаецца сёння ўгару
гарачага дыму і газу,
што нават разводдзе ідзе не ў пару.
Цяпер мы не змерзнем ні разу.

Чакайце адной цеплыні ад нябёс,
рыхтуйце сады для цвіцення...
А ўдарыў знянацку працяглы мароз —
і лопнула байка наконт пацяплення.

Ад трэску адно правады загулі,
абвіслі канцамі — ну што за навала!
І гейзеры штучныя б'юць з-пад зямлі —
ад лютага холаду трубы парвала!

Ці знаем мы, як ратавацца скарэй?
Маглі ж навучыцца да гэтага часу.
Давайце, прарокі, чыніць цеплатрасу,
бо страшна аб'інеў чыгун батарэй.

* * *

Хоць прагніла, цячэ,
і цёмна ў ёй, і сыра,
дасюль ліпіць яшчэ
зямлянка дэзерціра.

Вось-вось абсядзе дах
і злучыцца з парогам.
Былы вялікі страх
расце дрымучым мохам.

Канец усіх шляхоў,
якіх было не дужа...
Разгубленасці схоў,
прытулак маладушша.

Жыццё — ні дат, ні свят,
груз пакаянняў позніх.
Няспраўджаны салдат,
зарыты ў цемру подзвіг.

Схаваная ў кусты,
ні радасці, ні міру
не паслужыла ты,
зямлянка дэзерціра.

Маркоцішся ў журбе
без догляду, без даху...
Ёсць права і ў цябе —
каб быць музеем страху.

## *Рокеры*

Дзе тут цягацца з імі цыганцы!
Ажно калоціцца сцэна шырокая.
Перахліснуліся
песні і танцы.
Юны запал узрываецца...
Рокеры!
Рокеры,
выйшлі з падполля цяпер вы
(згінь, кансерватар!
Кры-ывіцца ён яшчэ...).
Гэта ж такое свята для нерваў,
гэта такое жывое відовішча!
Рыцары вы маладыя
без страху —
хтосьці пужлівы, пачуўшы,
аж стуліцца...
Добра,
што з гэткім вялікім размахам
вы супраць нечага ўсё ж пратэстуеце.
Вашых паклоннікаў —
цэлая плойма:
«Не заваляласяя лішніх білецікаў?»
...Можа б, вы толькі
спявалі па-свойму —
вам бы айчынных паболей сюжэцікаў!
Штосьці б даўжэй у душы затрымалася,
думка каб ззяла пад шумнаю шапкаю.
Болей бы сэнсу!
Каб не здавалася:
нехта бразгоча пустою бляшанкаю...

## *Па нотах уласнага сэрца*

Многа іх да дзяржаўнай кароны
прыліпала, апроч кар'ерыстаў —
з німбам святасці фараонаў,
фанфаронаў, валюнтарыстаў,

самаўпэўненых дырыжораў,
выпадковых на сцэне маэстраў,
што прыблізна — горш, чым стажоры,
кіравалі айчынным аркестрам.

І мянялі, і блыталі ноты,
узаконьвалі вэрхал часамі...
Ну а самі мы — ах, абармоты! —
што ж фальшывілі так галасамі?

Можа, самі ва ўсім вінаваты,
што збівалася музыка дужа.
Вушы ўраз затыкаючы ватай,
ратавалі авечыя душы.

Набалелае сціпла раз-пораз
мы выказвалі флейтамі ў залу...
Каб падаць свой абураны голас,
нам дыхання заўжды не хапала...

Ах, нарэшце ў свабодныя глоткі
свежы подых прыйшоў, як адхланне.
Хоць і позна, адкрылася ўсё-ткі
нечакана другое дыханне.

Час прабіў запаветнае здзейсніць —
звонкі голас звініць аднаверцаў.
Дачакаліся выканаць песню
мы па нотах уласнага сэрца.

## *Дэмабілізацыя тараканаў*

Дыхаем мы ледзь-ледзь.
Мусім прызнацца шчыра:
добра было нам глядзець
з цёплых утульных шчылін.

Жыць так хацелася век —
што яшчэ трэба болей?
Снег па шчоках не сек,
дождж за каўнер не цурболіў.

Некаму сонца пякло,
хтосьці ў зямлі калупаўся...
Нам жа зацішна было —
дрыхні і соладка баўся.

З шэфам, засценным бажком,
гналі муру пад капірку...
Тысяча раз трушком
бегалі з дзіркі у дзірку.

Хто з нас усё ж працаўнік —
гэй, крыкуны-малаверы?
Лес у Сібіры знік —
столькі стачылі паперы!

Што вам уеліся так
нашы банкеты-застоллі?
Ох, як прыемна, аднак,
поўзаць салідна па стол.

Гэта ёсць рай наяву
і найвышэйшае шчасце —
некаму на галаву
зверху раптам упасці!

Выклікаць перапалох —
кожнага можам з'есці!
Потым ізноў у бярлог
з выглядам важным залезці.

Зараз мы ўсе ў бядзе.
Нас адпяваць толькі — рана.
Хтосьці яшчэ правядзе-е
мабілізацыю тараканаў...

Слепіць пражэктарам час,
цешыцца... Што ж гэта будзе?
Без тараканаў, без нас
не рассупоняцца людзі?

Столькі служыць — і гібей...
Не расслабляемся ў горы.
Самі як можна глыбей
лапкамі вырыем норы.

Іх паяднаем ямчэй —
нам не ўласціва бяздарнасць!
Для выжывання хутчэй
злучым сваю салідарнасць.

## *Кар'ер*

Шчымлівы халадок.
Няўцямны пах густы.
Не дыхаеш знарок,
як дыхаюць пласты.

Не адгадаць ніяк,
што нам нясуць яны.
У самы твар — скразняк
з самотнай даўніны.

Цераз сыры пясок,
што апусціўся ў сон,
даходзіць гул здалёк —
з былых трывожных дзён.

Згарэлых сцен і стрэх
тут чую едкі чад,
чужы, варожы смех
і продкаў кліч-набат,

трубы паходнай марш
між клёкату буслоў,
напеў сялянскі наш,
трымценне родных слоў,

святло надзей з-пад крыл,
з-пад самых розных ног
Айчыны горкі пыл
і дым усіх эпох.

## *Хутарскія мышы*

Як першы мароз падбіраўся да іх —
у волкім іржэўніку радасці мала,
мільён іх, напэўна, мышэй палявых,
на наш хутарок зімаваць прыбягала.

Нашэсце манголаў! На тысячу хат
хапіла б іх. Як яны, чэрці, люцелі!
Нібы па заданню мясцовых улад
наш хутар ізноў раскулачыць хацелі.

Наіўныя! Ну і знайшлі кулака!
Нашто ім такая хаціна здалася?
Схаванага зерня было паўмяшка,
што маці усё ж зарабіла ў калгасе.

Не верылі! Куфар прагрызлі увесь.
І торбы стачылі, а зерня — ні трохі...
І чулася ў кожным куточку трэсь-трэсь —
і лезлі адна за адной з-пад падлогі.

Рабілі прабежкі свае па стале,
спакойненька так падбіраючы крошкі.
Успомніць жахліва: як ноч настае —
пад бокам тваім шамацяць яны ў ложку.

Аднойчы і кот звар'яцеў-затужыў,
хадзіў ён у нейкай пакутлівай скрусе.
Спачатку нязваных гасцей ён душыў,
а потым прапаў і назад не вярнуўся.

## *Неадпаведнасць*

Зло можа нават слоўнік затаварыць,
тым самым зганьбіць нашай мовы сад.
Да слова непрыстойнага «ударыць» —
сінонімаў амаль што семдзесят.

Як многа ўсё ж калючых жорсткіх слоў —
ты пасля іх ці просіш прабачэння?
Да слова мілагучнага «любоў»
мы колькі знойдзем — блізкіх па значэнню?

Я іх пішу — амаль што чысты ліст...
Вось здольны тэрмін на якую беднасць!
Ты растлумач, мой вопытны лінгвіст:
чаму такая ўсё ж неадпаведнасць?

* * *

Ёсць Дошка гонару. Няхай бы,
наколькі столькі сіл у зла,
на відным месцы Дошка ганьбы
перад вачамі ў нас была.

Была б усё ж такі падзея,
каб хто на гэты крок пайшоў...
Усіх паклёпнікаў, зладзеяў,
перараджэнцаў, алкашоў,

усіх, хто злоўжываў уладай,
хто паспяшаўся знелюдзець,—
на Дошку ганьбы! Каб з пагардай
на іх мог кожны паглядзець.

Сюды б усякага са зброду
таго, хто ліп да чорных спраў,
і тых, хто «ворагаў народа»
з такой стараннасцю шукаў!

## *«Мяняю кватэру!»*

Мяняю кватэру,
мяняю кватэру
на тую,
што меншага будзе памеру.
З балконам,
каб бачыць лясы Беларусі.
Балкона не будзе,
дык я абыдуся.
Няблага на плошчы —
глядзець на півоні.
Не выйдзе —
не згіну і ў мікрараёне.
На трэцім паверсе...
Паверх той заняты?
Нічога!
Згаджаюся і на дваццаты.
Каб сонца мне ў шыбы...
Вы што там хі-хі?
Бяру я і поўнач,
раз нумар глухі.
Мяняю кватэру,
мяняю кватэру
і нават не знаю,
ў каханне ці веру.
З адзінай, жаданай —
а ўсё-ткі расстаўся...
Мяняю свой лёс я
на лёс, які ўдаўся.

* * *

Пад урачысты шчыры віскат
я акунуся ў стан салодкі...
Пласцінкі, о, прабачце — дыскі,
свае вы разгарніце глоткі!
Пра вашу славу і вядомасць
сцвярджае попыт шматтыражны.
Няхай ліецца ў паўсвядомасць
ваш голас імпартна-шабашны.
Хай, выклікаючы ўтрапенне,
як гром вясенні, праімчыцца...
І ў тое ж самае імгненне
адразу ўдасца адключыцца
ад бед, трывог — жыццёвай прозы,
віны, пакут — малюнкаў слёзных,
ракетна-вогненнай пагрозы,
размоў і думак самых розных!
Быць зараз проста ты не ў стане
самім сабой з такой нагоды...
Як ноч, расслабленасць настане —
хвіліна поўнай асалоды.
О, музыка, тваёй улады
я дапусціў пераацэнку.
Я вось забыцца быў бы рады,
а ты — нібы гарох аб сценку.
Твой трубны гул у сэрца б'ецца —
не гасне памяці суровасць!
Табе чамусьці не ўдаецца
мяне шпурнуць у падсвядомасць.

* * *

Дзень сённяшні штось уцякае з вачэй,
тут — будзень, а вось за гарой — эпапея...
Любіць чалавецтва намнога лягчэй,
чым тога, што побач штодзённа карпее.

Нялёгка расквеціць усмешкамі край,
дзе столькі харошых усмешак паблекла...
Прасцей словаблудзіць пра будучы рай,
чым жылiста брацца за ўласнае пекла.

Саноўны чыноўнік, ты лепш не мані
пра светлую далеч, што ёсць у народа.
Калі ж ты гаворыш пра іншыя дні,
відаць, табе проста нікога не шкода.

* * *

Халодныя твары зімой і вясной,
я вас заўважаю ў любую пагоду.
І вы праплываеце перада мной
у шчыльным натоўпе, як намаразь лёду.

Халодныя твары, ваш профіль жывы
даўно, пэўна, страціў жывыя прыкметы.
На вуліцы зноў узнікаеце вы —
як тыя, што неслі калісьці партрэты...

Які ж вас такі магаданскі мароз
праняў,
і магло ажно так не пашэнціць,
што нават прыветлівы водбліск нябёс
ад вашага погляду ўбок рыкашэціць.

Халодныя твары няцёплай пары,
вылазьце даверліва з масак трыбунных.
Як жаўранкі ў полі, звіняць угары
вясёлага часу лірычныя струны.

* * *

Мы першымі прабілі дах нябёс,
нам смеласці хапіла на рэйхстаг...
Ты на якіх дражджах спажыўных рос,
двайнік наш родны — непазбыты страх?

Ты ціхенька выглядваеш з вачэй,
з табой, бывае, ходзім і бяжым.
Бо на працягу многіх дзён-начэй
ты меў спрыяльны для сябе рэжым.

Маршруты сцежак, вуліц і дарог
ты знаў — гуляў ля нашых аканіц.
Ты, як дзядоўнік, лапушыцца мог
і меў не сотню — тысячу цяпліц.

Якую ты душу ні даканаў
і лёс які пад лапы ні падгроб.
Ну а цябе, як ішака, ганяў
твой гаспадар — бязлітасны паклёп.

Наш новы дзень, наш чалавечны дзень
ніякі чорны не заслоніць птах.
Бездапаможна кідаеш свой цень,
свой бледны цень з падбітым крыллем, страх —
табе ўсё роўна надыходзіць крах!

* * *

І тут павеяў вецер перамен —
ну што ж, цягнік імчыцца са сталіцы...
Кладзе на стол фатограф-бізнесмен
прадукцыю сваю — і не баіцца!

Відаць, навар ён немалы займеў
ад гэтых здымкаў, што кідае скопам...
О колькі тут неверагодных Еў,
і соннікаў, і гараскопаў!

Цікаўны люд разглядвае старанна...
А можа, й я на гэты раз куплю
вядомага вусатага тырана
па вельмі цвёрдай таксе — па рублю...

## *Безыменнасць*

Дзе астатні ваш будзе снягамі прысыпаны след,
людзі, людзі, чыя безыменная горкая доля?
Вось пралескі і ландышы
зноўку зірнулі на свет
у пясчаных кустах, на пачатку вялікага поля.

Гэта кволыя знакі таго, што, напэўна, і вы
дзесьці тут пахавалі свае неспяваныя вёсны —
пад бярозай-лазой у абдымках маўклівай
травы,
не дайшоўшы да шчасця свайго,
што было — як да вёскі...

Кветкі,
кветкі балеснай айчыннай бяскрайняй зямлі,
ад пачатку вясны аж да самага позняга лета
колькі раз,
колькі раз самастойна вы ўжо расцвілі
над магілаю тых,
хто разлічвае ўсё-ткі на гэта.

Тут ніколі-ніколі вянкоў спецыяльных няма,
як спытаеш у тых,
хто маўчыць ужо: дзе ты, адкуль ты?
Іх магла б адшукаць сорак першага года чума,
тая злая чума і зараза тыфозная культу...

## *Старыя дамы*

Зноў стаяць і стаяць.
Цёпла дыхаюць на тратуары.
І спакойна глядзяць —
месца ў вечнасці ім яшчэ ёсць.
Сцены іхнія шэрыя сёння падобны на твары,
што ніяк не прыпомняць былую сваю
маладосць.

Яны прагна ўбіраюць цаглінаю кожнай
праменне,
і не здольны іх выстудзіць
нават скразныя вятры.
А на кожную шыбіну лёг нейкі знак
задумення,
хоць яны не чакаюць ні лепшай,
ні горшай пары.

Самі ў лёсе сваім
перайначыць нічога не могуць,
не жадаюць мяняць сваёй фарбы прыглушаны
тон.
Хай абыдзе паставаю мікрараённая моладзь,
ганарыста падкінуўшы ўверх беласнежны
бетон.

Маладыя дамы, ім прастудна, і ветрана ўсё-ткі,
і не лёгка на плечы пакласці крутыя вякі...
Ім, напэўна, цяплей,
што жывуць іх цагляныя продкі —
як і дзецям цяплей, калі дыхаюць недзе бацькі.

* * *

А ў пакоі маім распаўсюдзіўся холад сабачы,
экзатычныя пальмы на волкім акне зацвілі.
Што там робіцца ў свеце за шыбай,
нічога не бачу.
Качагарам, напэўна, сягоння зарплату далі...

Хто ж асмеліцца...
пойдзе рашуча ў кацельню і скажа...
Ртуць уніз папаўзла, ды нікуды ніхто не ідзе.
Ці не лепей на карце
знайсці афрыканскія пляжы
і нарэшце азяблыя рукі
папесціць у цёплай вадзе.

Дзікі холад у нас і вялікае свята ў кацельні.
Мы і тыя, што вугаль шуфлююць,
відаць, спарышы.
Гэта звычка старых выпівох,
што падкідваюць церні,
ці інерцыя нашай пасіўнай і добрай душы?

* * *

Здавалася, рад быў свайму сябруку,
хоць радасць сваю ён і спехам падважыў...
Ён першым падаў мне на поціск руку,
а выгляд зрабіў, што мяне не заўважыў.

Як часта, умела хаваючы гнеў,
сваіх ён крыўдзіцеляў славіў прыгожа.
І зараз ён шчыра мне ў вочы глядзеў,
а выгляд рабіў, што нічым не паможа...

## *Дом творчасці*

Мелодыі ліюцца скрозь і спрэс —
настолькі ранак выдаўся гарласты.
Дом творчасці — мой запаветны лес,
вясёлы кут разбуджанага птаства.

Спавіта голле гулкай гаманой —
гайдаюцца ад бойкіх песень шышкі.
Праклёўваюцца таленты вясной
у лесе, як шматлікія пупышкі.

Тут галасы суладна так гучаць,
адна буяе музыка жывая.
Няма турбот сяброў перакрычаць,
ніхто нікога не перабівае.

Ад кукавання і да шчабятання —
усюды песні рознага палёту.
Няма падробкі і перапявання —
у кожнага свае заўсёды ноты.

Гучаць тут песні з гэткім пачуццём,
трапечуцца ад гэткага задору,
што будуць нават творчым адкрыццём
натхнёных спевакоў самапаўторы.

І на паляне шумна-веснавой,
дзе галасоў рассыпанае мноства,
узрушана спрабую голас свой,
так шчыра баючыся эпігонства.

## *Храм прыроды*

Не толькі, каб схавацца ад зімы,
ад ветру, ад слаты, ад завірухі,
ад навальніцы, снежнай пацярухі,
будуем мы пампезныя дамы.

З верандаю, каб свежы лак гарэў,
з бляшаным дахам, дзе ўсе б'юцца зоркі,
з цэментавай дарожкай на падворку
на месцы траў, на месцы спеўных дрэў.

Чаго не зробіць чалавечы шык,
каб на суседа — ды з вышэйшых сходкаў!
А мусіць, абміналі нашых продкаў
пыхлівы форс, гвалтоўнай моды крык.

Яны жылі ў звычайным будане,
служылі дахам ім лясныя шаты.
Зязюля з жаўнай — госці іхняй хаты —
ім калыханку пелі на сасне.

Не правады, што працінаюць мур,
гулі тады — пчаліныя калоды.
Адзін на ўсіх вялікі храм прыроды
туліў любоўна і хаваў ад бур.

* * *

На гэты раз
суніц наспела многа,
ажно заззяла
чырвань на грудку.
Згінаюся,
але перасцярога
мяне трымае моцна
за руку.
Між цёплых пахаў
я блуджу ад рання.
І ўсё дарэмна.
Не наўнее збан.
Чарнобыльскае
воўчае дыханне
мне чуецца
над зеленню палян.
А па сцяжынцы
мурашы блукаюць,
і ім да бед
няма ніякіх спраў.
Маўчыш, зязюля,
можа, ты чакаеш,
каб я табе
твой век пракукаваў...

## *Зязюльчын голас*

Тут, на паляне, ландышы паснулі —
вісіць спакой сярод зямных турботаў.
Не проста зліцца голасу зязюлі
з гудзеннем рэактыўных самалётаў.

Настолькі меладычны голас гэты,
настолькі родны, невымоўна наскі.
Плыве над лесам, над бяздонным светам,
як прывітанне неўміручай казкі.

Ён наша сэрца і галлё рабіны
заўжды шчымлівай музыкай палошча,
аж покуль з горла вогненнай турбіны,
як бомба, не ўпадзе пярунны пошчак.

Ён зноў плыве раскідзіста і гожа.
Паслухаеш — і ты амаль паверыў:
яго ніколі супыніць не зможа
тугое рэха гукавых бар'ераў.

## *Былы маяк*

Ніхто не лазіў на цябе даўно,
амаль збуцвелі
ўсе твае драбінкі,
замшэлі ўсе пляцоўкі.
Ўсё адно —
здаецца мне —
не дрэмлеш ні хвілінкі.
А навакол,
куды пагляд ні кінь,
заззялі кволай зеленню бярозкі.
Уважліва глядзіш у далячынь —
на мройны лес
і бэзавыя вёскі.
Ты хочаш
спраўна высіцца на горцы —
відаць, нялёгка
адысці ад спраў,
хоць эстафету
пільнага дазорцы
велікадушна ў космас перадаў.
Стаў горшы зрок твой,
невыразны слых.
Былая сувязь
з небасхілам рвецца.
З пляцоўкі спадарожнікаў зямных
нашмат шырэй убачыць удаецца.
Ды стой жа цвёрда.
Ты і сёння наш.
Знікаць табе —
няма такой прычыны.
З табой
заўжды завершаны пейзаж
засмужанай ваколіцы айчыннай.

* * *

Знак ганаровай вахты — вербалоззе
наўзбоч дзвюх рук
вядзе да самай вёскі.
Як свежа пахнуць кветкі пры дарозе,
на ветрыку трымаючы пялёсткі.

Які вялікі запаветны гонар —
забыць бензінны пах аўтамашыны
і акунуцца з галавой у водар,
цягучы водар дзікай канюшыны.

О, кветкі, нашай маладосці сведкі,
не заўважаем вас,
здаецца мне так.
Усё радзей цвітуць у вершах кветкі.
Нейтронны век — і стала не да кветак.

Хоць вее золкі вецер недаверу,
звісае страх над светам мегатонны,
і сёння кветкі, быццам пры Гамеру,
свае ўздымаюць ясныя бутоны.

І сёння імі свеціцца дарога,
дзе дым, дзе гул і веку адгалоскі...
Хоць павуцінкай шэраю трывога
паспела ім заблытацца ў пялёсткі.

* * *

Штосьці-штосьці на вёсцы парушана.
Надта сумна, задумна, нязетла.
Вечарамі вялікімі скрушна,
каля хат, што забітыя, ветрана.

Штосьці-штосьці на вёсцы патрачана,
нават нікне і зараз усё яшчэ.
Ля ўтравелых дварышчаў не бачна
шматгалосых няклікаHых зборышчаў.

І не ўчуеш, куды ні крутніся,
ты сасновага, хлебнага водару.
Дзе вы дзеліся — ну адгукніцеся! —
хлебапёкі былыя і бондары?

Хоць расце побач слаўнае дрэва,
мэблі добрай пакуль яшчэ скупа.
Сталяры заліхвацкія — дзе вы?
Печнікі, малявальшчыкі, скульптары?

Мусіць, дужа паменела зноў-такі
сёння вас пад тутэйшымі зорамі —
мудрацоў, астраномаў, сіноптыкаў,
летуценнікаў і фантазёраў.

У сталіцах вы ўсе зарунелі,
хоць і жоўклі чужымі раслінамі.
Не чуваць, каб вы ўсе расквітнеліся
і зрабіліся слыннымі-слыннымі...

## *Лясныя дарогі*

Апетыя івалгай і берасцянкай,
вы сёння ўліліся ў машынны прагрэс.
Вы—памяць, вы—рэха сялянскай фурманкі,
што з нейкай турботаю ехала ў лес.

Вас так назбіралася многа. Вякамі
вы нешта шукалі ў былым гушчары,
злучыўшы сасоннікі з беразнякамі,
ныраючы з пахкіх кустоў у бары.

Вы — сведчанне веры, памкнення, гарэння
і кволых надзей зацярушаны след.
І ўсе вузлаватыя вашы карэнні —
як быццам былога кашчавы хрыбет.

Турысцкімі сцежкамі зараз вы сталі
да ягад, крыніц, партызанскіх сцяжын.
Чаборам духмяным пазарасталі,
шчыруюць грыбы ля былых каляін.

Глухія маршруты дзядоў-хлебаробаў
праз вецер і шчэбет, праз сонца і золь.
І вашы бярозкі, і вашы калдобы
прыносяць здалёку мне радасць і боль.

## *Заяц у канюшыне*

Яго збавенне — у густых кустах.
Пярэдніх лап і задніх трапятанне —
гарантыя яго выратавання.
Як быццам лёс вось-вось пацерпіць крах—
тапырыць поўсць неверагодны страх.

Ды толькі не разгонішся як след —
няма нястомных здольнасцей машыны
ірваць перапляценне канюшыны.
А навакол — такі ружовы цвет
і пышназзяе шматаблічны свет.

І не ўдаецца, хоць заляж, ніяк
спалоханаму целу адарвацца
ад той пагоні, што, як можа здацца,
узвысіць гонар маладых сабак...
Амаль што задыхаецца дварняк.

Услед ляцець, нібы метэарыт,
няма жадання — сілы на зыходзе...
«У джунглях дзён бясконцых і стагоддзяў
расстраціў свой я воўчы апетыт
і нападаць свой асабісты спрыт...

Ад хуткасці мне ногі забаляць.
Навошта недаверлівасць такая?
Чаму, чаму ён, заяц, уцякае?
Пяшчота сонца і нябёсаў гладзь —
і мог бы ён са мною пагуляць...»

* * *

Сумбурныя, бягуць каровы з пашы.
Крутнуўшыся капрызна ля варот,
кіруюцца ў суседні агарод
свавольніцы задыханыя нашы,
хоць дружна абураецца народ.

Няма ў іх сёння штосьці дысцыпліны —
хто ім зрабіцца дзёрзкімі памог?
Няўжо не смачны чэрвеньскі мурог?
Пад вечар не ўтрымаеш ні хвіліны
ля рэчкі цёплай — не хапае ног.

Без пастуха — былога камандзіра
ім дакучае вялы самапас.
І з іхнім лугам хлебатворны час
наўрад, наўрад ці абышоўся шчыра.
Густой травы хапае ім на раз.

А мроіцца ім паша не такая.
Хоць паплыві кудысьці па рацэ —
туды, дзе пахкі дзяцельнік расце...
І цягне родны двор, дзе іх чакае
буханка хлеба свежага ў руцэ.

* * *

Гарэлы лес — ён нібы сірата,
такі прыціхлы і панура-сумны.
Ні травіны навокал, ні куста —
усё агонь падчысціў неразумны.

З вялікім смакам пахадзіў агонь
і праглынуў чарніцы і брусніцы.
Салёны попел і стрымбуль-вуголь —
усё, што засталося ад грыбніцы.

А час ідзе. І для сасновых жыл
пакуль няма спакою ні хвіліны —
гарэлы лес амаль з апошніх сіл
спрабуе сок узняць да вершаліны.

Гарэлы. лес. Навокал ні душы.
Загінуў смех. Сініца не засвішча.
І толькі навасёлы-мурашы
штось хочуць будаваць на папялішчы.

## *Вяртанне*

Не знаю, як трапіць да родных варот.
Маўчу я. Мне трошкі нявесела.
Штаны падкасаю і плёхнуся ўброд,
бо кладка паводкамі знесена.

Я клопат адкіну, цяплей пагляджу,
абняты аерам і верасам.
Твар стомлены хліпкай вадой астуджу
і аслупянею на беразе.

І раптам двайнік, ці малочны мой брат,
кране за плячо: «Як ты маешся?
Я ведаў, што некалі прыйдзеш назад,
уволю калі набадзяешся.

Вось бачыш, прыціснула змора, як куль,
па-мойму, ты сыты дарогаю...
А я не крануўся нікуды адсюль,
і знаеш: не страціў нічога я.

Мне люба найпершая наша вясна
і гэтага лесу харомiна...»
«Чаму ж тады сцежка дамоў зарасла
і новая кладка не зроблена?»

«Без ног жа і рук я, нібы вадзянік,
і з гэтай нагоды намучыўся.
Я кінуты дух твой. Адданы двайнік.
Я верыў і веру, што злучымся».

* * *

Канцы з канцамі ледзьве зводзіць лета —
няўжо прырода гэткая скупая?
То луг травою буйнай не адзеты,
то пчолам мёду ў кветках не хапае.

Выходзіць, зноў яна не дадала
заранак, палахлівых і ружовых,
такога запаветнага цяпла,
грымотаў і дажджоў своечасовых.

У поўнай меры ягад і грыбоў,
здаецца, зноў яна не адпусціла —
у нашую не верачы любоў,
свае ліміты рэзка скараціла...

* * *

Вось толькі зоркі заблішчалі ўвысі,
на лёгкі шпацыр выплыў маладзік.
Свет, параднёны з намі, аддаліўся,
ён памаячыў і раптоўна знік.

Куды ён кануў? У сваю дрымоту?
Ці перанёсся на той бок мяжы?
Ну што яму людская адзінота —
ён зараз не хавае, што чужы.

Ён нас адных пакінуў на падворку,
нас пагубляў, не ведаючы дзе.
Напэўна, патаемную гаворку
якраз цяпер ён з вечнасцю вядзе.

* * *

Ах, дзядзька, дарэмна даліся на плотку
на гэтай ламачыне, што ледзь жывая.
Адразу відаць: ненадзейная лодка —
у ёй штохвілінна вада прыбывае.

Вада хіба кара? Вада не расплата —
у возера зноўку вярнуцца папросім.
Яе, калі шчыра прызнацца, багата
яшчэ ў малалецтве зачэрпнута лёсам.

Яе ж у жыццёвы мой човен і потым,
паверце на слова, ўлілося нямала —
і ногі, і рукі, нібы за чаротам,
бязбожна праз шчыліны дзён залівала.

Ах, едзем — я маю трывогу малую...
Рыбачыць! І вернемся мо да абеду.
Я вучаны-біты. І добра шпаклюю
і конаўкай спраўна вычэрпваю беды.

## *Валун*

Як кокан тайны, мацаю рукамі —
адчуць у ім пачатак і канец.
Маўчыць айчынны прыдарожны
камень —
зацяты, ў грунт заглыблены мудрэц.

Якое ж ён густое шматгалоссе
былых людзей, шматлікіх дрэў і траў,
дажджоў, мяцеліц, паламаных лёсаў
сваім нутром цярплівым увабраў!

Ён незнарок упадабаў свой хутар,
узмежак свой, вялікі нелюдзім.
Які б гэта праніклівы камп'ютэр
адбіткі часу прачытаў на ім?

Дзівак, дарэмна мацаеш рукамі,
ён не ўбярэ твой камарыны след.
Спіць непрабудна прыдарожны камень —
на шыі краю сумны амулет.

* * *

Недагаворанасць ва ўсім.
Смугой пабраная адкрытасць,
для кволых нас яна — як літасць,
мана, прыемная самім.

Недагаворанасць — яна
наўкол ва ўсім, ва ўсім разліта —
у тайне лёсу і нябыту,
ў жальбе руіннага акна...

Яна — ў шарэнзе шпаркіх год,
яна — у зорным карагодзе,
у незавершанай прыродзе,
у неспакоі гор і вод.

Мудрэц, свае прагледзеў вочы,
і далеч есца, як раса...
Ніхто табе сказаць не хоча,
адкуль заззяе праўда ўся.

* * *

Зусім знямогжыўся за дзень,
карпець, карпець — нягожа...
Прысядзь на прыдарожны пень,
падумай, можа.

Пакуль яшчэ далёка ноч,
пакуль не ўсё збылося,
зірні па-іншаму наўзбоч,
паразважай аб лёсе.

Каб знаць, усе твае кругі
куды — ў якую Мекку?
Ці не забыўся пра даўгі
сабе і веку?

На прыдарожны пень прысядзь
пад кліч зязюлі.
Дні паміж лісця шалясцяць,
спяшаюцца, што кулі...

* * *

Зелянее, жаўцее трава,
далеч сіняя перад вачыма.
Бездань вечнасці, ты — як дрыгва,
дно якой адшукаць немагчыма.

Гул засмоктваеш грозных падзей
з галасамі гадоў утрапёных,
з палавінаю нашых надзей,
з мітуснёю турботаў будзённых.

Не жартуем з табою ні-ні.
Пад уражаннем мары жывучай
мы ідзём. І ляжаць нашы дні
курганамі над прорвай зыбучай.

І размыліся ўсе берагі,
цвёрды грунт пад сабой пахавалі.
Голас гоніць кудысьці кругі,
нібы вецер салёныя хвалі.

## *Палеглая збажына*

Густое жыта голаў долу гне,
жадае ўстаць цяпер,
пры добрым часе.
З якім шаленствам злым у збажыне
аднойчы ноччу вецер пакачаўся!
Бывае ж гэткі вецер безгаловы,
і дождж, відаць, як ненармальны быў —
ліў як з вядра
ці з бочкі адмысловай —
бы цэпам, колас
да зямлі прыбіў.
А зерне, знаць,
яшчэ не налілося,
а жыту
яшчэ толькі красаваць.
Скалечанае кволае калоссе
не ведае,
ці легчы, ці ўставаць.
А песню жніўня
хочацца сыграць —
варушыцца жывучае ў праменнях.
І давядзецца
сонца дабіраць
ў нязграбнай позе,
нібы на каленях.

* * *

Дамоў — паразбіраныя масты...
Ну як я панясу цяпер дадому
народжаную песню, як і стому?
Усё. Мой жыватворны кут пусты.
Парог другі пераступіла ты.

І ў свой пакой не хочацца, павер,
хоць, можа, супраць памяці грашу я.
Што там рабіць, дзе ціша раскашуе?
Хіба што прытуліцца да шпалер —
даць волю міласэрнасці цяпер...

Там кватаруе ўладна боль адзін,
маё гняздо заняўшы пад арэнду.
Былое там — як сумная легенда.
А дом без маці — дрэва без галін,
наскрозь прадзьмуты ветрам успамін.

* * *

Час — вечны рухавік... або экспрэс,
што гонка мчыцца пад зарою бледнай.
А ўсё-ткі час не прасвістаў бясследна,
ён так выразна зараз уваскрэс...
З табою, маці, я спяшаю ў лес.

Пакуль яшчэ далёка да жальбы,
да сталасці і старасці далёка,
і светлы дзень прыслужвае, як лёкай...
Здаровыя, бы волаты-дубы,
здаецца, аж варушацца грыбы.

Што іх такая безліч — не прывык,
яны з-пад дрэў выглядваюць дзівосна.
Ажно спявае сэрца, ажно млосна —
такая радасць. Падымаю крык,
калі чарговы бачу баравік.

З якім імпэтам я гукаю: «Мой!»
А ты ўсміхнешся толькі: «Ну, вядома...»
Ты патураеш жэўжыку малому,
яго дзіцячай дурасці любой,
шчаслівая, што я іду з табой.

## *Пакінутая лесьнічоўка*

Ягоны след кудысьці зьнік,
зімуюць гурбы пад сасонкай —
пайшоў у іншы сьвет лясьнік
усьлед за жонкай.

І хоць застаўся паміж дрэў,
сярод прыроды роднай,
лясны будынак скамянеў
неверагодна.

Лёг непарушна на сьцяне
цень невымоўнай страты.
І боль на кожным бервяне
асірацелай хаты.

Жывуць вавёркі на гары,
ды не сьвятлеюць сьцены.
Ласі ступаюць па двары —
шукаюць сена.

Прыемна скачуць ля акон
сініцы ў час вячэрні.
Дзень весялейшы — будзе ён:
надыдзе чэрвень —

і сын і блізкім і радні
вялікі збор пратрубіць.
Свае лясныя карані
ён дужа любіць.

За што? Не ведае і сам.
За грай птушыны ветлы?
Пакажа радасна сябрам
дзяцінства нетры.

Дзе можна проста ўпасці ніц
і захмялець з травою,
дзе ад чарніц, дзе ад суніц
няма адбою.

Дзе ўранку кожны куст пяе,
раней за ўсіх устаўшы...
Таму і дом не прадае,
хлявы прадаўшы.

Дом не расстанецца з цяплом
і будзе жыць, няйначай.
Але які тужлівы дом,
як стане дачай!

* * *

Любімага возера
родны парог.
Я сяду, стамлёны,
з дарогі ахрыплы.
Ты, цёплая хваля,
спыніся ля ног,
да рук дакраніся
і ціхенька ўсхліпні...
Аддана
да пальцаў прыпаўшы на міг,
ты чуйна ўздыхаеш
у знак паслушэнства.
Праз гэты кароткі
і вусцішны ўздых
шчаслівая музыка льецца
з маленства.
О, хваля,
табе я душу аддаю —
як некалі,
верыш ты ў наша адзінства.
І сёння
праз горкую пену тваю
мае караблі выплываюць
з дзяцінства.

## *Плыт на Віліі*

Плыве ён, дзесьці змайстраваны,
прыдуманы надзвычай проста —
з дзвюх лёгкіх лодак надзіманых,
вясла, дашчанага памосту

і будана — маленькай хаты,
што свеціць выглядам нянаскім,
размаляванай так багата,
як ілюстрацыя да казкі.

Усё раскладзена чын чынам —
вудзільны, спінінгі і ласты.
Два хлопцы, побач дзве дзяўчыны
у белых кепках казыркастых.

Раскрытыя ў густое ўлонне
ракі гасцінныя вароты.
Навобмацак — пагладзь далонню —
усе віры і павароты.

Навокал песні — у разгары:
разліўся зорны час птушыны,
і разамлелая гітара
пакорна струны заглушыла.

Хай салавей у кожным сэрцы
паселіцца — ён самы звонкі.
Плывуць па Віліі туземцы —
нібы на хвалях Амазонкі...

* * *

За хмары сонца адплыло,
спакойным змрокам аблажыла.
Набракла летняе цяпло —
на цэлы тыдзень задажджыла.

Сцякаюць кроплі з мокрых крыл —
у птушак добрае цярпенне.
Усё апала: спёка, пыл,
ног загарэлых утрапенне.

Сыпучы, залаты пясок
сцямнеў і сцяўся схаладзела.
І толькі гусі праз лужок
брыдуць на бераг апусцелы.

Шыпіць вільготная шаша,
каму, а ёй няма спакою.
Святкуе лепшы час душа,
з табой застаўшыся ў пакоі.

Дзень сонны пройдзе недарма,
у цішы памяць загукае —
успомнім тых, каго няма,
і тых, хто нас яшчэ чакае.

## *Начныя камбайны*

Зіркаста ўглядаюцца зверху Стажары
на цэлы мурашнік машын ля абочын,
дзе ўсе матылькамі абвітыя фары —
як слабенькі водбліск у месячнай ночы.

Над бункерам зерне рассыпіста свішча,
ад радасці жнівеньскай скача высока.
Відаць, да світання на свежым іржышчы
прылегла сухая вячэрняя спёка.

Сталічны сіноптык стараецца дбайна —
ніякіх пакуль што падстаў для трывогі...
Гудзяць і стракочуць начныя камбайны
і вечныя конікі каля дарогі.

Жытнёвае поле расчынена насцеж —
прытульна і цёпла камбайнеру ў полі.
І спее, як збожжа налітае, шчасце
ягонай — пазначанай зорамі — долі.

Санлівасць не кружыцца над галавою.
Калоссе стамлёнымі песціць вачыма
так хочацца зараз, адчуўшы душою
навокал начное дыханне Радзімы.

* * *

Стаю між сосен тых, што ўпершыню
адчулі кволым голлем і карэннем
пажар вайны, штодзённы чад гарэння.
Не майскую спазналі цішыню —
дыханне шматаблічнага агню.

Пявучыя равесніцы нягод,
таварышкі мае і аднагодкі —
якія ж вы напорыстыя ўсё-ткі!
Высока ўзнеслі свой славуты род,
каб даўні лес не звёўся, як народ.

У шмат разоў мяне перараслі,
хоць разам пачыналі мы ўзыходы.
Вы выжылі, не зведаўшы лагоды,
карэнне паразгортвалі ў зямлі —
гудуць раздольна дужыя камлі.

Буйнейце, сосны! Не свінцовы град
лавіце голлем, а буйныя зоркі.
Хай з вершалін пакатых, нібы з горкі,
слізгае ясны шар за далягляд,
нам свой вячэрні кінуўшы пагляд.

## *Самотныя сады*

Сюды вядзе бярозавы завулак,
дзе салавей не моўкне стогалосы.
Накрыўся мохам колішні падмурак —
чамусь не стаў ён моцным грунтам лёсу.

Той чалавек, што будаваўся, ў Польшчы—
туды яму даўно ўжо свеціць зорка.
А тут дзірван стаў гаспадар найбольшы —
уся трава ягоная з падворка!

Дарма фундамент каравуліць груша,
відаць, сама яна жыццю не рада,
але ж куды пад старасць сёння рушыш...
Мне так шкада пакінутага саду!

Яго пабачу, і з дарогі збочу,
і пагляджу з тугою і віною.
Хаця не песцяць іх людскія вочы,
ах, як квітнеюць яблыні вясною!

Прыўзняўшы ў неба радаснае вецце,
пялёсткі ясна асыпаюць долу.
Цалуюць першым лісцем родны вецер
ад пачуцця сваёй сіроцкай долі.

* * *

Відаць, адчуўшы нецярпенне дрэў
і зразумеўшы прагу цёплай глебы,
гром у паветры дзёрзка прагрымеў
і скалануў на міг зямлю і неба.

Не проста для пацехі, не на жарт
ён пракаціўся ўздоўж — дзеля карысці,
доўгачаканы абвясціўшы старт
траве, суквеццю, маладому лісцю.

І ў той жа момант распачаўся спех
сярод галля, на беласнежнай гронцы.
Стаў несупынным жыватворны бег
ад леташняга кораня да сонца.

Ужо буяць хацела сенажаць,
ужо квітнела яблыня ў зацішку...
Працягвалі вясне салютаваць
духмяным стрэлам гонкія пупышкі.

## *Над Страчай*

*Памяці Артура Цяжкага*

Рэчка Страча,
рэчка Страча.
Лёд пайшоў
пад тонкі хруст.
Ды схіліўся,
быццам плача,
над табою
вербны куст.
О як хутка
ўспыхнуць кветкі,
пойдуць травы
па зямлі.
Як хацелі,
тут улетку
мы з табой
не пабылі.
Над абрывам
у бязлюддзе
не пачулі
ўласных слоў.
І нічога
больш не будзе —
ні сустрэчы,
ні размоў.
Тут світаннем
і змяркannем
вечна будуць
землякі,
што з тваіх
апавяданняў
выйдуць,
пойдуць да ракі.

Рэчка Страча,
рэчка Страча —
смутак
матчыных начэй.
Хоць каму
ад гэтай страты
ці зрабілася лягчэй?
Не змаглі мы
лёс адужаць,
выпіць
поўны збан святла
і аб вечнасці
падумаць,
бо яна
сама прыйшла.
Да ракі,
да вішні роднай —
імі трызніў
праз гады —
пераехаў моўчкі
з Гродна —
з вёскай зліцца
назаўжды.

* * *

Стамлёны, я ногі свае ледзь валок,
пакінула вера, адхлынула сіла.
Спыніўся і з радасцю лёг на пясок,
каб боль адпусціла.

Як трапіў, не помню, ў закутак лясны —
бяда мяне так перад тым закруціла.
Вільготнай шчакою прыпаў да сасны,
каб боль адпусціла.

І колькі разоў так бывала пасля —
тады, як самота мой век карацiла,
я ў вечнае неба глядзеў спакваля,
каб боль адпусціла.

* * *

Што бачна зверху — ўсё не так унізе.
Тырчаць кусты травы, дзе сніўся кветнік.
Карціць сваё жыццё звяраць па кнізе
і браць у рукі колішні даведнік.

Калі ж ты акунуўся непасрэдна
у самы вір сваёй ракі і лёсу,
цапы ўраджай намалацілі бедны,
і твой пірог бы хтосьці ўкраў з-пад носа.

І выйшла так: жыццё — яно як дрэва,
якім нябачны вецер верхаводзіць.
Ад самага нявіннага павеву
яно, бывае, хадуном заходзіць.

Вось і хапай за хвост вяртлявы шчасце
і ведай, ведай кожнаю хвілінай:
павінен ты не тое што не ўпасці,
а прарасці хоць кволаю галінай.

* * *

Начная песня позніх журавоў
у хату з цемры млечнай ападае.
Журба якая...
а любоў якая
да нашых беларускіх паплавоў,
да азярын, балоцістага лесу...
І самае галоўнае, як бач,
яны не ўмеюць
стрымліваць свой плач
у век пачуццяў іншых і прагрэсу.
Гусцее ціша ў наваколлі спрэс,
дрымоты цяжкай
апусціўшы глыбу.
Дрыготка сплю
і чую,
як праз шыбу
ліецца жураўліны паланез.

## *Позні шыпшыннік*

Нястомны шыпшыннік!
Хоць блізіцца захад,
плыве адвячорак —
твой зараснік днее,
прасвечаны
зыркімі сонцамі ягад,
гасцінец
з абодвух бакоў палымнее.
Вось-вось і насупіцца
восень глухая,
ты ж радасна свеціш
ад вёскі да вёскі,
і весела
квецень твая палыхае,
шчасліва
халодныя ззяюць пялёсткі.
Хоць снежныя хмары
збіраюцца дзесьці —
у неба
з калючага лезеш адзення.
Далей — у зіму —
парываешся несці
трываласць пладоў
і нястомнасць цвіцення.

## *Ёлка*

Пабудзем дзецьмі.
Сёння дзень дзяцей.
Бярыцеся за рукі ўсе, хто ёсць:
гаспадары, і госці, і суседзі —
каму там не салідна
ў дзень дзяцей?
Надзеньце маскі,
каб настала яснасць,
дзе пустабрэх-сабака,
дзе лісіца,
дзе воўк-хапуга,
дзе гультай-мядзведзь.
Агляд сягоння
масак відавочных!
Пабудзем дзецьмі.
За руку маленства
вазьміце
пад уражаннем віны:
о колькі раз
вы здрадзілі яму
і ад яго публічна адракліся?
Ссыпайце ў сенцах
званні і пасады,
амбіцыі,
сухую дзелавітасць,
разлік свой тонкі,
хлебны прагматызм —
і вырасце,
як быццам на дражджах,
адразу крушня цацак усялякіх,
старэнькіх цацак — нашых забаўў!..
Пабудзем дзецьмі,
лёгкімі, як пух,

свабоднымі, шчаслівымі, як птушкі,
і добрымі, як шчырыя дэльфіны.
Кружыцеся!
А наш цвярозы вопыт
хай пачакае трохі ля варот,
хай паскуголіць.
Сёння дзень дзяцей.



Вясёлы такі і задзірысты бег —
на гонкім гасцінцы танцуе буланы.
Сабака наперадзе шпарыць аддана,
надзвычай уважліва нюхае снег.

Як радуе гэта дарога — дамоў.
Матляюцца проста для формы ляйчыны —
іх кінуў пад ногі лагодны мужчына
ці штатны работнік — падвозчык кармоў.

Дарогі, відаць, не бывае відней —
бярозы трапляюцца бесперастанку.
Духмяніцца сена ці, можа, аўсянка —
жывая вячэра гукае з саней.

Вось зараз, напэўна, не здасца каню,
што можна яго палічыць небаракам —
у новых падковах, на пару з сабакам —
няйначай, удзячны пражытаму дню.

Хаця не апомніўся сёння як след,
як стаў чарапахай лічыцца патроху,
наперад сябе прапусціўшы эпоху
шалёных турбін і грымучых ракет.

Пакуль што ягоны не скончыўся шлях,
ёсць праўда свая не малога памеру...
І б'ецца спалоханы водбліск даверу
у злёгку бадзёрых і сумных вачах.

## *Заснежаныя ягады*

Прырода іх чамусьці зберагла
(з прычыны той, што лішнімі здаліся?).
Ад восеньскага шчодрага стала,
каб зімаваць,
у лесе засталіся.

Ніякі вецер іх не абтрасе,
як абтрасае шышкі з верхавінкі...
Неверагодна зморшчаныя ўсе,
прысохлыя да выстылай галінкі.

Штось надта доўга петраюць яны
на скразняках,
што гойсаюць са спехам,
захутаныя ў іней ледзяны,
бязлітасна прысыпаныя снегам.

Ды раптам надыходзіць іхні час!
З'яўляюцца суцехаю адзінай
для курапатак і сініц не раз,
калі навісне чорная гадзіна.

Ад голаду нядоўга злубянець...
Ды паратунак выблісне птушыны
з кустоў ажыны,
голля арабіны,
з брусьнічніку,
што бачыцца ледзь-ледзь...

Мае радкі нясмелаю гурбой
ў людскія сэрцы стукаюцца ветла.
Як на галінках ягады зімой,
мае радкі калышуцца на ветры.

Як цяжка верыць:
іхні бледны цень
камусьці ўспыхне
хоць маленькім ззяннем
і хоць аднойчы ў самы горшы дзень
палёгкай будуць
і выратаваннем.

* * *

Бяссільна стукаешся ў дом
найгоршаю хвілінай,
галінка бэзу пад акном,
захутаная ў іней.

Уся прамерзлая наскрозь —
да кропелькі-слязінкі,
залубянелая, вось-вось
ты зазвініш ільдзінкай.

Наўрад каму цяпер, наўрад
цяпло прысніцца.
Ды як адчайна хоча сад
сагрэцца ад сініцы.

Якая цяга да жылля,
дзе ёсць ратунак нібы.
Як пальцы белыя галля
дрыжаць ля самай шыбы...

Як перабыць суровы час
і жыць ля весніц?
Як хочацца ў чарговы раз
пялёсткі здзейсніць!

За стрэчу з сонцам лёс скубе
трайную плату.
Галінка бэзу, як цябе
пусціць у хату?

* * *

Дзе просьбаю, дзе ледзь не з плачам,
з надзеяй выйшаўшы з варот,
чатыры цяжкія задачы
яна рашае кожны год.

Вясна ідзе — у нашай цёткі
турбота першая нудзіць:
ну як жа, як жа гэта соткі
ў далёкім полі пасадзіць?

А пройдзе месяц-два — і зноўку
даймае клопат без канца:
як быць — ці ўдасца на кароўку
прыдбаць і сёлета сянца?

А восень выгляне з бярозы,
трывога сядзе на шчаку:
як выбраць бульбу да марозу,
дзе ўзяць на гэта талаку?

Яшчэ пытанне не пустое
плыве па восеньскай смузе:
а хто мне з лесу сухастоін
вазоў хоць пару прывязе?

Тут ёсць удачы і няўдачы —
усяк бывае на душы.
Чатыры цяжкія задачы,
хоць і няма ўжо сіл — рашы!

Ды ёсць цярпенне і карпенне,
жыццё — з будзільнікам зары.
І ходзяць старасць з утрапеннем,
нібы ў абдымку, па двары.

* * *

Вы толькі фон,
вы толькі музыканты,
а значыць, лёс
нічым не асаблівы...
Скажыце,
радавыя аркестранты:
вам не бывае
крыўдна і тужліва?
Настрой у вас
не бурыцца дашчэнту —
чужога ўзлёту
сцішаныя сведкі,
калі грымяць —
не вам! —
апладысменты,
ляцяць на сцэну —
зноў не вам жа! —
кветкі?
Натхненне ваша шчырае
забыта,
як і забыты
гулкіх флейт напевы.
Статысты вы.
Прыстаўленая світа.
Вы — цень
недасягальнай каралевы.
Здаецца,
што і вы навідавоку,
ды людзі вас не бачаць
мімаволі.
Усё жыццё
трымацца трэба збоку
і быць дадаткам

да галоўнай ролі.
Мінаюць вас
эстраднай славы пырскі,
закрылі твары
сціплымі смыкамі...
Хоць слынны голас
спешчанай артысткі
калышаце
уласнымі рукамі.

* * *

Хоць недзе ўнутры нецярпенне скрабе,
хай прыйдзецца ўрэшце спакой даспадобы...
Спыніся. Злажы абавязкі з сябе
рупліўца — набыўся і так земляробам.

Пярэчыш: як дровы, што склаў ля сцяны,
не зложыш аднойчы зямныя турботы.
Да сэнсу не дойдзеш, навошта яны —
свабодныя дні, ветэранскія льготы.

Як кола, круціся, пакуль ты жывы,
хай рупяцца рукі, пакуль не калекі.
І вокны, і дзверы, платы і хлявы
штодзённай тваёй патрабуюць апекі.

Салодкі, спакуслівы — працы палон.
А сэрца прыпыніцца і не скранецца —
прывабна-зялёны, раскідзісты плён
не сыну, дык людзям сваім застанецца.

## *Трактарыст*

Штодзень тарахціць у вушах —
раве рухавік, як турбіна.
І пыл забівае кабіну,
не вопратка вечарам — жах.
А ў часе вясенняй сяўбы,
бы ў негра, бліпчаць толькі вочы.
У полі ары сярод ночы,
хоць дрэмле вясковец любы.
Адзіны навар — у сезон:
зусім не шахцёрскі заробак.
Калі ты не выйшаў на «ромбік»,
то трактар — зусім не рэзон.
Хаця й не вучыўся на пяць,
не быў вундэркіндам,
аднак жа...
Не прагнеш ты долі інакшай —
нічога не хочаш мяняць!
Што ж гэта трымае цябе —
стараннe, працоўная святасць,
бязвыхаднасць ці праставатасць —
цяжар валачыць на гарбе?
Няўцёкі ад хворых бацькоў?
Нявер'е
у пончык салодкі?
Прывычка?
Дзівацтва?
Ці ўсё-ткі
да глебы звычайнай любоў?

* * *

Нервова курацъ, чыркнуўшы запалкай —
з нябёс імжыць сцюдзёная смуга.
Ідуць мужчыны за бульбакапалкай —
вялікая хадзячая чарга.

Будзь варухлівым, мітусліва-ходкім,
з людскім натоўпам шчыра пакружы,
інакш да ночы не разгоніш соткі,
калі чакаць ты будзеш на мяжы.

Нядоля-хмара зноўку паспяшыла —
лье на спіну лазоваму кашу.
Псуецца
у чарговы раз машына,
а гэта — нібы камень на душу.

Даносіцца жалеза ціхі шоргат,
пахітваецца трактар на бакі.
А ўслед яму — у мокрых капюшонах
мужчыны, нібы чорныя гракі.

## *Рамонтнікі*

Не проста выпа́дак — звычайная норма:
патомныя ўсе яны тут хлебаробы.
Хоць зараз на спінах ільсніцца спецформа,
папросту, па-людску гаворачы — роба.

Ах, колькі мазуту яна увабрала —
успыхне, як факел. Курыце з аглядкай!
У пальцы ўпіваецца холаду джала.
Ратунак адзіны — пастукаць у ладкі!

На тыдзень шэсць раз падымае будзільнік—
працоўныя ў месяц чатыры суботы!
Гараж, а найлепей сказаць — маразільнік,
дзе пара ўздымаецца воблакам з рота.

Шурупаў і гаек тут гэткае мноства,
ляжыць тут такая жалезная каша,
што нават механіку ўцяміць не проста,
прыстойна скумекаць, дзе наша, дзе ваша...

З'явіўся — за справу бярыся адразу,
загрукай ключамі — прыйшоў не на шпацыр.
Старайся іпачыць — і гэта не фраза.
Зірніце на іх пазбіваныя пальцы.

У іх не бывае уцёкаў ад змогі.
Што можна лягчэй жыць — іх тычыцца мала.
Да жаўранкаў першых паставяць на ногі
ўсю тэхніку, што на двары прыдрамала.

*Калгасны механік*

Запырсканы гразёю матацыкл
(забыўся лак, калі ён бачыў сонца).
Штодзённа ў дождж ягоны гаспадар
у соты раз падлічвае калдобы
пяці брыгад — пяці мацерыкоў
планеты роднай, што завуць калгасам.
Яго сняданак у калясцы сохне,
яго абед пяць раз падаграецца,
яго вячэра, страціўшы цярпенне,
у кубак малака ператвараецца.
Няма калі ні есці, ні курыць.
Бульбакапанне і сіласаванне,
пачатак ворыва і восеньскай сяўбы —
запарыліся ўсе рухавікі,
гудуць над полем харавой капэлай.
І раптам які-небудзь з іх адзін
пасля чацвёртай, можа, капіталкі
застукае нутром, і папярхнецца,
і, чмыхнуўшы, заціхне ўраз...
Інфаркт!
І вылезе з кабіны трактарыст,
збянтэжана ўстрывожыцца: «Бяда!» —
што трэба разумець: «Механіка сюды!»
Праз пяць хвілін механік тут як тут.
Ён як-ніяк усё-ткі тэхурач...
Абмацвае ён па́ліўную помпу,
электраправады і карбюратар
і думае: куды забраўся чорт?
Пакуль паставіць правільны дыягназ,
становіцца падобным сам на чорта —
далоні, локці, шчокі і пінжак
мазутам тлустым гэтак размалюе,
што не паверыш, нібы ў выхадныя

ён надзявае фірменны касцюм.
Тым часам зноў пара на матацыкл,
ён зноў свае падлічвае калдобы.
Ды неадлучна ў маладой душы
прытомленая колішняя мара
варушыцца, бадзёрыцца, не спіць —
як птушаня ў вясенні дождж, спявае...

## *Лётчыкі 41-га года*

Як піць вы хацелі!
Вас проста замучыла смага.
Стамлёнае цела,
дзе тлелі і злосць і адвага.
У час прадвячэрні
на наш вы натрапілі хутар.
Бязлітасны чэрвень
вас сажай і пылам захутаў.
Худыя пілоты,
вы ўсё ж разгубіліся трошкі —
арлы-самалёты
згарэлі ў пачатку бамбёжкі.
Пілі малако вы,
зусім не чапаючы хлеба —
узняўшы галовы,
каб бачыць айчыннае неба.
Уся з утрапення,
душа палыхала пажарам.
Ды цень адступлення
лажыўся на бледныя твары.
Насуперак ночы
пайшлі вы. «Праб'ёмся!» — казалі.
Журботныя вочы
прыглушаным полымем ззялі.
Праз морак пакуты,
дзе смага, бяссілле і змога,
паліла салюты
у вашы вачах Перамога.

## *Севастопаль*

Твае ўсе схілы
увабралі соль —
ад попелу, ад слёз, дыхання мора.
Зямля травою
апляла свой боль,
свінцовы град,
што тут шалеў учора.
Абвуглены.
жывым прыйшоў з агню,
як стаў калісьці,
з месца не сыходзіў...
Пакутліва ўрастае ў цішыню
твой май
амаль што пяць дзесяцігоддзяў.
Не захлісне
адолены чужак
гранітных пліт
і дарагіх імёнаў.
Якой дрыготкай памяці свяжак
дзьме [illegible] гавані
і даўніх бастыёнаў!
Не толькі
горкі час сваіх пакут
запомніў ты,
не толькі дзень свой чорны.
У кожным дрэве,
што ўцалела тут,
закальцаваны дух твой непакорны.

* * *

Ах, людзі, што ў пярэдадзень вайны
умелі так смяяцца з фатаграфій
(хоць тыя фатаграфіі... яны
здаюцца мне раднёю эпітафій).

Відаць, патрэбна дзякаваць вам лёс,
што маляваў вачам любоў і за́мкі...
Вы ў самым цэнтры сонечных нябёс,
а не ў нутры прамавугольнай рамкі.

Гляджу з вялікім болем я на вас,
расчыненых сяброўству і даверу.
З якім стараннем час апошні раз
кладзе адбітак шчасця на паперу!

Ён свой сумленны фотааб'ектыў
адвесці ўбок чамусьці ўсё марудзіць.
Мо вам сказаць...
Ды рот сабе закрыў:
мне так шкада
усмешкі вашы спудзіць.

## «Тытанік»

О, як гвалтоўна мы яго згубілі,
закінуўшы ў салёную пасцель...
На чорным дне, ва ўсемагутным іле
спіць самы грандыёзны карабель.

Не варухнецца больш каркас вялікі,
наўрад ён ці ўсплыве наверх, як кіт,
усёй абшыўкай увабраўшы крыкі,
бяссільны енк, апошні плач наўзрыд.

Хто выцягне яго на бераг плыткі?
Калі ж выратавальніка свайго
убачыць ён і залатыя зліткі,
што, кажуць, ёсць у чэраве яго?

Прыплыў той ноччу айсберг кантрабандай
сюды — ў цяплейшых водах пагасціць...
Усё-ткі за расслабленасць каманды
якой цаной прыйшлося заплаціць!

Настала непазбежная расплата —
прычыннай гібель бачыцца здаля...
А раптам не на айсберг — на вар'ята
наткнешся ты, любімая Зямля?

Уздымуцца ўгару агонь і сажа,
заб'ецца акіян з апошніх сіл.
І ў рэшце рэшт усё жывое ляжа
калі не ў іл, дык у касмічны пыл.

Пакуль яшчэ так сонечна ў зеніце,
пакуль спяваюць птушкі на галлі,
глядзіце, людзі, навакол глядзіце,
ці так плыве наш карабель Зямлі.

* * *

А можа, ўтаймуй свой пажар утрапення.
Ад смагі нябесны блакіт асушы.
І ў космас вярніся людскога раення,
дзе пеніцца бездань агульнай душы.

Куды без усякай казённай паперы
занесен навечна твой мечаны лёс.
І знай, што над ёй агнявую сякеру
якісь наваяўлены д'ябал узнёс.

## *Апакаліпсіс*

Кіпеў акіян.
Звар'яцелыя хвалі,
як цацку, падкідвалі лайнер турысцкі...
Да воблакаў з гулам густым узляталі
салёныя пырскі.

І квола трашчалі заклёпкі і гайкі —
выдатны метал стаў падатліва-ломкім.
На тысячы міляў ні шхуны, ні чайкі —
абломкі,
абломкі...

Як лютая бура, знямогшыся, спала
і сціхла яе нечуваная глотка,
з дрымучых глыбіняў наверх усплывала
падводная лодка.

Нядаўна шпурляла са дна акіяна
свае мегатоны ў свет шматгалосы...
І грукала сэрца ў грудзях капітана:
убачыць нябёсы!

Ірвала на часткі душу утрапенне,
халоднай расой пакрывалася цела.
Высокае сонца,
бы ў часе зацьмення,
у мораку тлела.

Ахутаў удушлівы попел бязмежжа.
Дзе дзеліся ў гавані роднай усмешкі?
Нікога, нічога...
На ўсім узбярэжжы
адны галавешкі.

Рассыпаўся прысак на месцы ўчарашнім,
ніхто не чакае, не любіць, не кліча.
Варожым было і да жудасці страшным
зямное аблічча.
Замёршы, падводная лодка стаяла.
Было ў яе, мусіць, адзінае выйсце:
у чорную прорву, забыўшы прычалы,
нырнуць — і не ўсплысці...

## *Вячэрняе*

Чаромхаю млечнасць
заззяе на зорных загонах.
І блізенька вечнасць
успыхне ў вачах утрапёных.

Глядзіш, ды не ўгледзець
дно самай глыбокай крыніцы...
А сэрца вярэдзіць
густы халадок таямніцы.

Адчай немаленькі.
Ды вера іскрыцца, як крэмень:
галактыкі нейкай
застукае сэрца праз цемень.

Удоўжкі, ушыркі
гасцінны Сусвет і спакойны...
Якая фальшыўка —
надзея на «зорныя войны»!

Што робіцца гэта?
Разважыш — у думкі не ўлазіць:
над нашай планетай
дракон наваяўлены — лазер!

Якое блюзнерства —
не людзям служыць, а — нябыту...
І злосць, і шаленства
пускаць на зямную арбіту.

## *Лазерныя шахматы*

Вакол зямнога шару нам
гуляць у кошкі-мышкі?..
За лазерныя шахматы
вы што ўзнялі кілішкі?

Куды ж, цікава, вынесе
вас гэты план шчыгульны?
Вы думаеце, кінемся
у лазерныя гульні?

Яны занадта хмельныя,
каб стаць законнай верай.
З упартасцю дуэльнаю
не клічце да бар'ера.

Хады свае каронныя
спыніце — яшчэ можна.
Фігуру электронную
зрухне і дурань кожны.

Не даць касмічнай пошасці
страляць агнём па даху —
па-людску вас упрошваем,
не з кволасці ці страху.

Нас стрымлівае ветлівасць
і вытрымка пад скурай.
Не бойцеся, мы ведаем,
якой пайсці фігурай.

* * *

І белым днём, і нават сярод ночы,
адчуўшы, як зямлю трасе ў Невадзе,
паэты, мы спяваем, бы прарочым,
рапсодыю жыццю, пракляцце звадзе.

Здаецца нам, што наш радок —
як выстрал,
аж рэха паляціць па кантынентах...
А ці пачуюць нас прэм'ер-міністры,
ці дойдуць ушчуванні прэзідэнтам?

Да іх прарвуцца словы праз аблокі?
Да іх наш голас ці прыб'е вятрыска?
Яны далёка і, бадай, высока,
да іх варот нас не падпусцяць блізка.

Няхай сабе! Але калі мы хорам
уздымем свой рашучы гулкі поччак,
ён можа заўтра стаць магутным горлам
шматлюдных вуліц і вірлівых плошчаў.

І крык у самы непарушны кокан,
напэўна, дойдзе цераз пачакальні.
Каб шкло трымцела генеральскіх вокан,
гудзелі шыбы прэзідэнцкай спальні.

* * *

Ах, калі-небудзь, калі-небудзь —
мо год за сто — у сіняве
міралюбівы, быццам лебедзь,
свет нашай мары паплыве.

Ён будзе ў самым лепшым стане
і зробіць свой кругаварот.
Ніякіх ворагаў не стане,
ніякай злосці і згрызот.

Зірне былое пакаянна
праз бед і войнаў лес густы.
І лягуць цераз акіяны
любові вечныя масты.

На ўсёй, на ўсёй зямлі вялізнай
спадзе няшчырасць, як парык.
А наша ўсмешка стане візай —
адной! — на кожны мацярык.

Супыніць свой злавесны гоман
былы нябесны палігон.
І будзе самы большы гонар —
апошні закапаць патрон.

І стане так прыемна небу,
што ўрэшце добра на зямлі.
Ах, калі-небудзь, калі-небудзь...
Мы ж можам вырашыць — калі!

## *Першае спатканне*

Па чуйным лісці,
па начной траве,
па правадах,
па месячнай арбіце
арганным гулам музыка плыве,
плыве —
не хоча змоўкнуць у нябыце.
Шуміць яна
суладна давідна,
суцэльнай хваляй коцячыся ўвысі.
Уся зямля —
напятая струна,
сама звініць.
Парвецца — дакранісяі.
З сусветам зліцца —
ёсць такі намер,
ужо цяпер планета замалая.
Пад музыку
усіх вышэйшых сфер
у жылах кроў крынічная гуляе.
У садзе зор
рукой паварушы —
адчуеш іх пад пальцамі здзіўлёна.
Знікае плошчь.
А светлы шар душы
трапечацца
над цемрай утрапёна.

## *За пяць хвілін...*

Пакуль трымаўся незалежна ў часе
і часу новы не прабіў адлік,
пакуль з табой сустрэча не збылася,
я мог спакойна сесці на цягнік.

Памчаць, паехаць — клікала дарога.
Наведаць сябра, што мяне любіў.
Пайсці дамоў... Ні гэтага, ні тога
у момант той чамусьці не зрабіў.

Я мог у рай ці ў пекла акунуцца,
але сысці адсюль за тры вярсты...
Ну што мяне прымусіла вярнуцца
на тое месца, дзе стаяла ты?

Я да цябе зрабіў мо дзесяць крокаў.
І ў той жа міг з грудзей пачуўся стук,
што азначала: шчасце недалёка —
пара ўтрапення і пачатак мук.

Як адчыняе ўсе дарогі насцеж,
як весела са мной гуляе лёс,
нібы тыран — за пяць хвілін да шчасця,
як добры маг — за пяць хвілін да слёз...

* * *

Тваё гэта права —
разлічваць на цёплую шчырасць,
адданасць маю безаглядную
і дабрыню.
Тваё гэта права —
парыў адчуваць, а не літасць
і верыць не дыму вялікаму —
толькі агню.
Маё гэта права —
імкнуцца ў далёкае лета,
у дзень меданосны,
дзе ўсмешка твая расцвіла.
Маё гэта права,
бо хто запярэчыць на гэта:
душой прытуліцца
да большага ўсё-ткі святла.
З няпрошанай восені
сённяшніх нашых адносін
я мушу варочацца,
як непрытульны, назад,
дзе ззяе дагэтуль,
на беразе колішніх вёсен,
твой самы жаданы
і самы пяшчотны пагляд.

* * *

Успыхнулі й згарэлі словы.
Бо іх адчай перакрычаў.
Нам болей не служыла мова.
Маўчала ты. І я маўчаў.

Такая ледзяная поза
была не вынікам зімы...
Яшчэ пакуль на добры позірк,
на ўсмешку права мелі мы.

Пакуль не патанулі мукі
у непрыкаянай журбе,
жывыя трапяткія рукі
яшчэ знайсці маглі сябе.

Хоць крыўды — маладыя восы —
нас джалілі — смылелі дні,
маглі ж не пакарыцца лёсу,
яго насмешлівай гульні.

Цяпер ужо сцяна — не рыска! —
між намі — пастараўся час!
А як было тады нам блізка
да слова, што злучыла б нас.

## *Двое*

Кружыліся побач, нібы ў карнавале,
у мройна-вірлівым палоне суседства.
Плылі яны разам, але адчувалі,
што ў іх не каханне, а пэўнае бедства.

І мусілі трызніць адзіных, адзіных,
сваіх запаветных у мары салодкай.
І сёння яны — як нямыя ільдзіны,
што ў пару звяла веснавая паводка.

* * *

Гучыць гудок — і ўбок паўзе перон,
з сабой кудысьці цягнучы паўстанак.
Зірнулі ў вочы і яна і ён
на нейкі міг з дзвюх процілеглых лавак.

Зірнулі — вось і ўспыхнулі душы дзве.
І можа лёс свой зорны час іграць.
Вы, людзі, іх пакуль што не тушыце —
няхай яны маланкамі іскраць.

Мо тут, мо тут жыцця галоўны пік,
падносіцца да губ зямная чаша.
Як крутанецца шчасця змеявік —
цікава ўсё ж выпадку-звадыяшу.

Што будзе ад сябе, а што ад бога,
ухопяцца за сонца ці карніз —
ніхто не знае. Іхняя дарога
уверх за рукі павядзе ці ўніз?

## *Вільня*

Угору і ўшыркі
ты ўпэўнена вырас,
удаль і ў нябёсы ўглядаешся пільна.
Спакойны,
як старасць сумленная,
Вільнюс,
ці, як мы завём па-тутэйшаму —
Вільня...
Не зрушыла з месца
ні часу навала
цябе,
ні бясконцая войнаў лавіна.
О, колькі стагоддзяў ужо святкавала
свае юбілеі гара Гедыміна!
Як часта цябе
на шыкоўныя карты
наносілі прагна ва ўзбуджаным стане
усе славалюбцы-тузы:
банапарты,
пыхлівыя кайзеры,
фюрэры-здані.
Іх раці назад адкаціліся ўсё-ткі
панура і моўчкі,
губляючы трэскі...
Пра гэта раскажуць
муры-аднагодкі,
усё гэта бачылі даўнія фрэскі.
Хоць вёсен тваіх адраілася многа
і тысячы лісцяў
з каштанаў упала,
здаецца, натхнёнага і маладога
на вузенькай вуліцы
сустрэну Купалу.

З паглядам,
дзе мары вялікія спелі,
жаданні —
пасобіць айчыне хоць крышку,
каб ластаўкай
родныя словы запелі,
і родныя словы,
і першыя кніжкі.

## *Маладыя гарады*

Усе — з пасляваенных вы гадоў,
і на вачах вы нечакана ўзніклі —
ў метрычнай кнізе нашых гарадоў
пра гэта запіс знойдзеш, сёння звыклы.

Наўзбоч дарог, чыгунак і азёр,
на месцы самых розных скрыжаванняў
па-маладому ўскінулі да зор
спружыністыя плечы рыштаванняў.

Лагодаю вы дыхаеце ў твар,
юнацтва ваша адчуваеш зблізку...
Як луг вясенні, зззяе тратуар —
запанавалі кветкі і калыскі.

Вы любіце прыезджых і гасцей
страчаць ля брамы ўсмешкай
летуценнай.
Вы так падобны нечым на дзяцей,
што выраслі парой пасляваеннай.

* * *

Ты — як чаромха ў паэтычным сшытку,
о, слова матчына, што жывіш верш.
Ды вось бяда: для вузенькага ўжытку...
ты як між іншым сёння існуеш.

Ты мімаходзь сваё спраўляеш свята,
занадта сціпла ходзіш ля сваіх.
Мо знаеш: спісак будзе даўгаваты
тваіх нікім не расчыняных кніг.

Ты баязліва пырхаеш з кіёскаў
і хочаш трапіць у высотны дом.
На міг пакінеш сціпшаную вёску —
і б'ешся аб вітрыны вераб'ём.

Дарма, дарма да першага перона
нясём цябе, пасля — ў кішэнь глыбей...
Не верабей, не белая варона,
ты — самы звонкі ў свеце салавей!

## *«Другарадныя» паэты*

З рук слава выпадае, нібы ртуць,
ніяк прызнанне не прыходзіць штосьці.
Іх лаўры ўсе на венікі ідуць,
на венікі, якімі іх чыхвосцяць.

Наканавана ім мясціцца з краю,
каб фіміям — што з цэнтра — не прыліп.
І знізу ўверх маўкліва пазіраюць
на тых, хто ўжо ўзабраўся на Алімп.

Узнесціся і ім на вышыню
жадаецца. Але бракуе веры,
а можа, і свяшчэннага агню —
яны, магчыма, трошачкі Сальеры.

Дайсці ніяк не могуць да пашаны,
каб іх папесціў погалас людскі,
як быццам звон не медны, а бляшаны
разносяць іх старанныя радкі.

Не разумеюць звычай даўнаваты:
аднолькава працуюць два сяўцы;
плён першага — заўсёды на цытаты,
другога — гэткі самы — на дубцы.

Хто ведае, а раптам лёс балесны
што-небудзь пераменіць на вяку...
Хаця часцей за ўсё вянок жалезны
кліч падае лаўроваму вянку.

* * *

Настойліва настрой уніз паўзе,
да донца вычарпана вера...
А ты адвыкні пакрысе,
што ёсць пяро, што ёсць папера.

Свой кут адчужаны пакінь,
тугу скуліўшы на парозе.
Ідзі, імчыся ў далячынь
з людзьмі жывымі па дарозе.

Сярод шматлікіх спраў, удач
у дождж, у снег, зімой і летам
ты з імі радуйся і плач —
і зноў адчуй сябе паэтам.

У цеснаце, у духаце,
на гулкай плошчы ці ў дуброве
абавязкова зацвіце
радок галінкаю любові.

* * *

Я — пеўчая птушка.
Мне весела й сумна.
Я песняй
і вашай увагаю сыта.
Спяваю — як дыхаю.
І неразумна
заўжды прасяваць
мае песні праз сіта.
Я — кволая птушка.
Па-мойму, не варта
маю выпрабоўваць
птушыную сілу.
Нашто пасылаць мяне
на элеватар,
каб там я не пела,
а збожжа насіла.
Я — вольная птушка.
І сонейку рада,
і небу, і полю,
дзе жыта і кветкі.
Не думайце толькі,
што буду рулады
я пець вам з прасторнай
дагледжанай клеткі.

## *Рака*

Цячэ направа і налева,
сваіх не помнячы дарог,
то важна, нібы каралева,
то раптам кідаецца ў лог.
Вітаючы і дні і ночы,
надвор'е вёснаў, летаў, зім.
То зашуміць, то забулькоча
ці нават сцішыцца зусім.
І па пясочку, і па глею
заўсёды ёй прыемны шлях.
Іскрыцца, свеціцца, цямнее,
шалее раптам на вірах.
З вялікай ласкаю гайдае
дзяцей і сонца, месяц, рыб...
Свой лёс ніяк не адгадае,
кудысьці бегучы з-пад ліп.
Ліецца, любячы свабоду,
праз цёмны лес і паплавы...
У свет без компасу і броду
і ты, мой вольны верш, плыві.

## *Кушляны — Вязынка*

Вы аб'яднаны роўнаю красой,
як лёс праракаў —
велічны
і горкі...
Такія ж летуценныя узгоркі
з бярэзнікам,
асінай
і лазой.
Шпакі
такой жа кружаць талакой,
адных і тых жа думак
будзяць скрутак...
Аднолькава
наш беларускі смутак
прасвечваецца
сонечнай ракой.
І там і тут
былыя груганы
дзяўблі
і поля
і душы аблогі.
Усё спасцігаюць вечнасць
ля дарогі
і там і тут
нямыя валуны.
Спеў гулкі покліч:
«Што-небудзь зынач!»
Адзін і той жа
ў поўнай паняверцы.
І там і тут
для раненага сэрца,
як востры нож,
стаў невыносным плач.

Адзіны край,
што выкрасаў з грудзей
агонь-любоў
і мудрасць запавета:
няма дарогі іншай
у паэта,
апроч адной дарогі —
да людзей.

* * *

Якія рыфмы ні знаходзь —
унутраныя ці канцавыя,
хоць гулкія, як гром,
ці хоць
як тыя пошапты лясныя;
як свой радок ні аздабляй
метафарай ці параўнаннем,
а зззяе верша небакрай
тваім бясхітрасным прызнаннем.
Тым, тым, што вырашыў сказаць
ты свету
пры вячэрняй зорцы.
А рыфмы ўсе твае вісяць —
як цацкі
на святочнай ёлцы.
Іх хоць пакінь,
хоць сабяры —
што з гэтага!
Не будзе глуму.
Яны зіхцяць, як ліхтары
на дрэве ясна-зыркай думы.

* * *

На бераг працы і турбот,
але такіх, што сэрца песцяць,
не прыніжаюць і не бэсцяць,
не джаляць, як стары асот.

На бераг гэткі, дзе ні мук,
ні хцівай зайздрасці, ні злосці.
Такі, дзе нашы птушкі-госці
яду бяруць удзячна з рук.

Дзе над сабой на сотні вёрст
я вочы вечнасці пабачу.
Лісіцу рыжую — удачу
я расхацеў хапаць за хвост.

Хай вецер днее ў галаве,
варушыць думкі і паперы.
А мой сумбур, як крыж кар'еры,
няхай на дно сабе плыве.

Не бераг тых наступных дзён,
што не ўцяклі пакуль што з лета,
дзе даспяваюць запаветы
з тваіх уласных баразён.

## *Начлег на разгалай сасне*

*Лірычная хроніка*
*дайняга лета*

Вылазь на сонца, тачка,
з-пад паветкі,
да рук прыліпні брата Леаніда.
Набраклі ў брата мускулы шарамі —
ён навабранец,
ён дзяцюк ужо.
Убранзавелы і каржакаваты,
па целе сіла ходзіць хадуном.
Як добра: брат ёсць —
мой уласны конь.
Ну, кратайся хутчэй, буланы...
Но-о!
Пішчыць, вішчыць нязмазанае кола,
не ад бяды —
ад шчасця лямантуе...
Пяе аб тым,
што зноўку свята ў нас —
чарговае праз выган падарожжа;
і коціцца па мяккай мураве,
нырае з курганоў — духі займае...
Пужліва скачуць конікі ў бакі,
трапечуць крыллем «божыя кароўкі»,
вось-вось і хопяць кнігаўкі за чуб —
чаго яны так, чэрці, рассмялелі?
І свеціць сонца
ў мой раскрыты рот.
Смяюцца вочы ў брата Леаніда.
Гуляе тачка ў жылістых руках —
ну, колькі я там важу кілаграмаў!
Стой, конік!
Ці ты, можа, апалеў?
Не чуеш,

як трашчыць пад намі кладка?
Ура! Ура! Праскочылі раўчук.
Цяпер нырнём у ранішні алешнік.
Прыхільным лісцем высцебае твар —
своечасова толькі прыжмурайся.
Запанаваў у носе востры пах!
Акоп разбіты збоку мільгануў —
чаму б не ўзлезці на акоп нямецкі?
Як хутка ўсё ж прашалясцеў алешнік,
мы ля сасны разгалістай — прывал!
З усіх бакоў,
як тачка да сасны
шчасліва прытулілася на міг,
і перастала кола верашчаць,
худыя коні
цэлым табуном
насустрач нам узбуджана брылі.
Адны з іх моўчкі тупалі,
а іншыя
іржалі і гайдалі галавой.
Ва ўсіх хвасты паволі варушыліся
(маўляў, валоссе колькі хочаш рві,
калі наважыў рыбаком зрабіцца).
І стоўпіліся шчыльна навакол,
бесперапынна мылялі губамі —
глядзелі ў вочы брату Леаніду.
Яны, няйначай, так любілі брата!
А можа, есці жаласна прасілі.
Ах, небаракі!
Выскаблілі выган,
ні лапушка — хоць пакаці шаром.
А побач лапушыцца сенажаць —
варушацца мятліца з канюшынай.
Туды не трапіш.
Празвініць мяжа
калючым дротам — асадзі назад!

Не плачце, коні — дрот перапаўзу,
а вы тым часам стройцеся ў радок,
паслушна так галовы выгінайце —
пучок травы на кожнага нарву.
І сёе-тое будзе ў жываце.
Ой, коні, не шанцуе —
старшыня!
На разе разбягайцеся ў бакі,
а то мурог нам бокам павылазіць —
гудзе ў паветры ўжо дубец тугі
(я потым вам астатняе дадам).
— Навошта бэсціш сена, хлапчанё?!
Дадумаўся! Скумекаў дык скумекаў —
сярод жывёл гультайства разводзіць,
цяпер аддаць зімовыя пайкі...
Ідзі сюды, яснавяльможны Лёня!
(Няўжо дубцом ён брата секане?)
— Вы, дзядзька Пеця, вельмі не крычыце.
Малы дурны,
але няўжо ў яго,
як і ў мяне, душа не страпянецца,
калі на косці конскія зірнуць —
з гектар падкіньце коням сенажаці...
— Ты блюзніш, Лёня.
Выган той жа самы,
што быў раней, як не было калгаса...
— Але ж вы не ўлічылі, дзядзька Пеця,
што кожны конь, любімчык гаспадарскі,
калісьці меў прыварак часцяком:
ці кош травы, наскубленай у бульбе,
ці рэзгіны травы той з-пад кустоўя,
ці вікі на шырокі ўзмах касы,
ці нават з торбы фунт які аўса...
Глядзіце, дзядзька, каб не здохлі коні.
Не бачыце, як выгладалі выган —
аж пачарнеў...

Ён выбіты, нібы
падворак пасля шумнай вечарынкі.
— Не баламуць, яснавяльможны Лёня.
І лепей, чым мянташыць языком,
ў алешніку табун свой папасі —
там сёе-тое выкалупаць можна.
Датэпаем як-небудзь да атаўкі —
калгасная жывёла не здыхае!..
І дзядзька Пеця, першы старшыня,
абраны на агульным сходзе вёскі,
сваю рашуча люльку закурыўшы,
патрухаў шпарка ўзмежкам лугавым —
уверх ажно ўзляталі кірзачы.
Пашлэпалі і мы каля дратоўя,
забыўшы тачку пад сасной разгалай.
Маркотна стала брату Леаніду.
За ім павалакліся нашы коні,
нібыта ён які Хрыстос-збавіцель,
які, замест нябеснай маннай кашы,
густога мурагу ім сыпане.
І сапраўды за кім жа ім ісці —
гнядым, сіўцам, буланым даўгагрывым,
спакойным і разважлівым кабылам,
залішне аж вясёлым жарабятам,—
як не за братам, іхнім канюхом,
адзіным канюхом на ўвесь табун.
Былі яшчэ тры
на пачатку лета,
спужаліся, што коні перадохнуць —
і ўсунешся ў маўклівы дом казённы...
Адсюль у паляводства цягу далі —
там хоць і не за пазухай у бога,
а ўсё-такі намнога спакайней.
Там можна ўсю віну за страту зерня
на град спіхнуць
ці на абложны дождж.

*

Скранулца з месца не хапае сіл
(а я зусім ад жаху спруцянеў,
і мой язык ажно прысох да нёба).
Відовішча абгрызеных касцей
балюча сцебанула па вачах.
Якая нечаканая бяда!
Няшчасце — маладзенькага каня
сягоння ўноч ваўкі расшкуматалі.
Падпільнавалі, пэўна, аднаго,
упуджанага ўціснулі ў алешнік —
гуляць пайшлі завостраныя іклы.
Іржаў з кустоў, напэўна, небарака,
ды хто з грывастых рызыкне памчацца
на дапамогу ў чорнае галлё...
Дзе быў тады ты, брат мой Леанід?
На твары змрок у брата Леаніда.
Яго і мой загінуў лепшы сябар,
прыгожы весялун і непаседа,
што не хадзіў, а звабна танцаваў
і цёрся галавой аб нашы плечы...
— Якая ўтрата! — дзядзька-старшыня
рукамі ўсплёснуў і замітусіўся
на месцы тым, дзе ноччу жарабка
шалёныя загрызлі гладаміры.
— Ты, Лёня, што — хадзіў на вечарынку?
Не чуў, як іклы ляпаюць?
Ці спаў?
— Якая вечарынка, дзядзька Пеця!
Шпацыраваў па выгане ўсю ноч.
Але чаму здарылася такое,
не ведаю,
хоць гром мяне забі.
Ваўкі, відаць, старыя валацугі,
нахабна ўшалелыя з вайны.

Не толькі ноччу,
нават белым днём
яны па полю скачуць, як сабакі.
Успомніце, як год таму назад
на нашым лузе, недзе пад абед,
у бок свайго жаданага ляска
спакойна правалтузілі авечку
ля пастуха,
ля самых яго ног?
Калі на тое выйшла, дзядзька Пеця,
калі я гэткі конюх-недарэка,
пад суд аддайце...
— Ну, куды загнуў!
Я ж ведаю, што лютыя ваўкі
звялі жывёлу без твайго дазволу...
Не тузайся, яснавяльможны Лёня,
бяду сваю пароўну мы падзелім.
Я знаю, што ўначы адзін не воін,
і зараз план я гэткі камбіную:
сягоння двух мужчын табе я нанач
на ўсякі там выпадак падашлю.
А трохі потым — шчыра дакляру,
каб не сышоў я з гэтага вось месца —
куплю табе ў райцэнтры дубальтоўку —
па воўчым карку смачна пеканеш!
...Падскварыліся смольныя карчы,
з-пад іх угору выбухнуў агонь
і польку-трапятуху заскакаў —
па выгане разлёталіся цені
(звяры ўсе, калаціцеся ад страху!).
У ход пайшлі махорка, хлеб і сала,
з газетным коркам пляшка самагонкі,
у ход пайшлі гамонка, смех і жарты,
гісторыі ўсялякія і рогат —
галоўнае,
каб шум стаяў над выганам!

Начлежнікі запомнілі той шум,
але пару, калі яны паснулі
ля цёпленькага вогнішча — ніхто,
як лоб ні моршчыў, уявіць не мог.
А кемныя ваўкі і ў гэту ноч
каня на часткі зноўку разарвалі.
— Ну як вы праваронілі, ваякі,
драпежнай хеўры сённяшні наскок?
З такою вартай лазарамі станем —
павалачэм на рынак хамуты...
Парайце мне, які прыдумаць план.
На што рашыцца?
Ладна, так і быць —
яшчэ двух пастухоў вам дабаўляю.
Разуйце вочы, вушы разгарніце!
Табе ж я, Лёня, дубальтоўку хутка,
праз нейкі, можа, тыдзень раздабуду...
А ўвечары карчы шугалі зноў,
бесперапынна ўспыхвала махорка,
ляцела рэха ад жыццёвых баек.
З начлежнікаў сёй-той хадзіў у цемень,
працяжна кашляў — страшыў хіжакоў!
І ў гэту ноч, зусім непадалёку,
задзёрты быў мышасты жарабок.
Як бура, дзядзька Пеця бушаваў,
пустую пляшку адшукаў пад веццем,
з гадзіну пальцам тыцкаў у яе,
і разагнаў нарэшце ён рашуча
цыганскі табар...
— Заставайся, Лёня,
адзін, як быў — ад іх карысць якая,
ад гэтых лежабокаў-выпівохаў,
пад іхнюю пустую балбатню
бывае нават весялей ваўкам.
Адводзь табун як далей ад кустоў,
агонь палі і факелам свяці.

А стрэльба — будзе.
І патронаў — торба.
Праз нейкі тыдзень грымнеш, як з гарматы...
Ваўкі кудысьці зніклі — след прастыў
(магчыма, проста выканалі план
ці, можа, надакучыла каніна).
Прасцей не стала брату Леаніду!
Аднойчы да паўночнага кастра
кампанія дрымучая падсела.
Лазою віслі валасы, бароды,
сям-там у патлы ўблыталася лісце...
Застракаталі ў братавых вачах
канфедэраткі, кепкі-васьміклінкі,
фуфайкі, гімнасцёркі, пінжакі,
камашы і растоўчаныя боты.
І недарэчна неяк з-пад рыззя
пацёртыя тырчалі карабіны,
павешаныя нібы так, для форсу.
— Здароў, калгасны конюх!
Працадні
выседжваеш пацяху ля агню? —
зарагатаў кудлаты барадач
і па плячы паляпаў Леаніда.—
Ну, колькі вам на гэты працадзень
увосень выйдзе — пуд ці на панюх?
Вядро, напэўна, ўсё-ткі нацярушаць —
курам-нясушкам будзе што сыпнуць.
Хоць я чытаў савецкую газету,
што шчасце ў тым, каб задарма ішачыць...
— А ў чым жа шчасце? —
кепка-васьміклінка
дапытвалася ў чорнай барады.
— Не ведаеш, такую тваю маць!
Ай, сысунок, зарэзаў без нажа.
А шчасце ў тым,
каб вечна вольным быць,

не звязаным ні жонкай, ні вайной,
распараджацца лёсам, як грашмі,
жыццём сваім заўсёды банкаваць...
— Калі ж ты гэткі бойкі рызыкант,
што ад мабілізацыі даў драла?
Ты на вайне амаль што кожны дзень
сваё жыццё кідаў бы як на карту,—
сказала гэта кепка-васьміклінка
і весела фуфайцы падміргнула.
— Пратру мазгі табе, сялянскі лапаць,
на гэты конт... Я ад вайны ўцякаў,
таму што не было ў мяне айчыны
дакладнай, пэўнай...
Што такое Польшча?
Напышлівая мачыха-шляхцянка.
Расія, што прыйшла
ў трыццаць дзевятым?
За два гады няцэлых не паспеў
я зразумець яе і палюбіць...
— Няма айчыны тут, непадалёку,
дык, можа, у Германіі знайшлася б? —
уедлівая кепка-васьміклінка
дражніла, выпускала кіпцюры.
— Ты гэта кінь!
Не круглы дурань я
ісці ў лакеі да шалёных гансаў.
— Панове, супыніце спрэчку, вы —
як кацяняты, што яшчэ сляпыя,—
азвалася ўбаку канфедэратка
прастуджаным танклявым галаском.—
Каталіку не гожа сумнявацца,
айчызну, як на рынку, выбіраць.
Хто даў вам веру моцную, культуру?
Не Польшча, можа, не яе ужонд?
А пад крылом чыім вы столькі год
хаваліся ад дзюбы бальшавізму?

— Хто грэўся пад крылом,
а колькі з нас
сваім дыханнем грэла мур Лукішак? —
спыталася адразу барада.—
У тым не сумнявайся, пан асаднік:
айчыну, і пілсудскіх, і паноў,
асаднікаў, шпікоў, паліцыянтаў
ніколі я не прагнуў бараніць.
А Польшчу тых, хто гнуў спіну на полі
або махаў кувадлам утрапёна,
абаранілі спраўна без мяне.
Які з мяне для Польшчы патрыёт?
Для Польшчы мы — ірышый кабыле
хвост...
Ці праўда, хлопча?
Так я гавару?
Скажы — агульных коней гаспадар.
(Свярбеў язык, ды кругам галава
ішла чамусьці ў брата Леаніда.)
— З такой лухтой не лезьце да яго,—
азвалася зноў кепка-васьміклінка.—
У кожнага з вас сечка ў галаве,
палітыкі лясныя, патрыёты —
вы курчыце занадта грамацеяў.
Паслухайце, што вам паведамлю.
У гушчарняк і я нырнуў сыры,
ды не таму, каб помсціць за валокі,
калісьці адабраныя уладай —
чаго вачмі страляеш, пан асаднік? —
і не таму, што беднай сіратою
я адчуваў сябе ў тутэйшым краі,
не знаў, якую бараніць айчыну,—
у гушчарняк я даўся ад вайны,
таму што шкуру зберагчы хацеў.
Навошта мне, я думаў, дзецюку,
на захадзе пагібелі шукаць.

Найлепей, так я думаў, завіруху
перачакаць сярод звяр'я і птушак...
Балда, я на амністыю не клюнуў —
не падышоў з павіннай да улад.
Здавалася, што хітранькі капкан
ляжыць пад ёй.
Прыйду — а мне й каюк!
Сустрэўся з вамі, гніды — і пайшла
гульба начная — страшная гульба,
што нават зараз моташна бывае.
Адна суцеха ўспомніць, калі мы
ўрываліся знянацку на вячорку.
Духі займала бабам-пасядухам,
гармонік заікаўся і змаўкаў,
па лямпе з нашых хтосьці малаціў —
нібыта ў пекле, узнімаўся віскат,
звінелі вокны, сыпаліся шыбы,
а мы хапалі дзевак па кутках...
Ці многа гэткіх светлых успамінаў?
Часцей за ўсё...
Ах, лепей памаўчу.
Як паступова засмактала багна!
Цяпер за намі валачэцца хвост,
даўжэзны хвост крывава-чорных спраў.
Прыйдзі з павіннай з гэтакім хвастом —
за хвост ухопяць і як крутануць,
як разматаюць і як шыбануць!
Апусцішся на нейкім Магадане,
калі яшчэ ты цэлым даляціш.
Хоць, знаеце, што я скажу вам, хлопцы:
ці не пара нам выбраць Магадан?
— Зубамі свае жарты прыкусі,
зачуханы знайшоўся агітатар.
Грызе сумленне? Во яшчэ Хрыстос!
Далей плыві, калі да нас залез
у чорнае дзіравае карыта.

Спрабуй прадаць ты нас, сялянскі лапаць! —
скрывілася ад злосці барада.
— І я не супраць ірвануць адсюль,—
прызналася маўклівая фуфайка,—
ды хочацца яшчэ на развітанне
паліцы магазінаў падмясці.
— Ну, цыц! Свае скруціце языкі,—
ускочыла на ногі барада.—
Не бачыце, што гаспадар агню
уважлівыя вушы навастрыў...
Цябе мы, хлопча, не зачэпім пальцам,
хаця і ты вядзі сябе прыстойна,
пра нас да самай раніцы не гаўкні.
А зараз пільную зрабі паслугу —
нам пару добрых коней падбяры.
— Вы ж знаеце, што коні не мае...
І добрых коней тут няма наогул
(кіпела сэрца ў брата Леаніда,
хацелася так выкрыкнуць: «Не дам!» —
ды вока ўсё чаплялася чамусьці
за карабін, што быў у барады).
— Ну, ладна,— абвясціла барада,—
калі ўжо ты запляміцца баішся,
перад сабой не будзем цябе гнаць.
Ля вогнішча свайго ты дрыхні, хлопча,
мы выберам і самі бегуноў.
А давядзецца табе, конюх, туга —
шнуруй да нас — гульнеш як чалавек...
Спявалі ногі ў брата Леаніда!
Пакуль дабег да хаты старшынёвай,
пакуль ён раскатурхаў дзядзьку Пецю,
пакуль круцілі тэлефон няспраўны,
на выгане даўным-даўно не стала
кампаніі стракатай і дрымучай.
Іржаў табун узбуджана-трывожна —
двух коней ўсё-ткі вылавілі, чэрці!

*

Спыніся, тачка, бокам прыхініся
на нейкі момант да сасны разгалай.
Турбот хапае брату Леаніду.
Няхай хутчэй ён выган абыходзіць,
палічыць шчыра коней, а пасля
ім дабрадушна грывы паказыча.
Я ж на сасну разгалую палезу,
на цэлы свет зязюляй закукую.
Калышацца паднебнае гняздо,
прыдуманае братам Леанідам.
Хоць днём я пагайдаюся.
Сюды
не пусціць ноччу брат, хоць узмаліся,
ён сам сюды залезе ў позні час.
Прывяжацца вяроўкай да сукоў,
павесіць побач гучную лапату,
з-пад дзягі моцнай высуне сякерку —
і ўдарыць па лапаце абушком!
І паплыве ў густую цемру звон —
над выганам, алешнікам і борам —
ускалыхне дрымучы супакой.
І ў той жа момант вушы натапыраць
паўночныя лясныя хіжакі.
Панюхаюць, паслухаюць і пойдуць
у іншы бок, туды, дзе цішыня.
Звон паплыве,
і ў той жа самы міг
узбуджаныя коні заіржуць,
разыдуцца ахвотна па траве
і заварушаць шумнымі губамі,
збіраючы атаву і расу —
вясёлая пад музыку вячэра!
А іхні галасісты музыкант
сваёй ігрой захопіцца настолькі,

ажно лапаце стане падпяваць,
увысь на зоркі гледзячы з-пад лапак.
І толькі на світанні сон агорне,
пад посвіст птушак раніўніх задрэмле —
звон у руках у брата Леаніда.

*

Прыедзь, мой браце, з-пад свайго Урала
яшчэ раз на кароткую пабыўку.
Як хочацца прайсціся зноў і зноў
з табой сумесна да сасны разгалай.
Калі яна, сасна, яшчэ жывая,
ніхто не спілаваў яе на дровы,
вавёркамі мы ўзлезем на яе,
на пні суседнім палажыўшы годы.
Зірнём навокал з даўняга гнязда —
і здасца, быццам колішнія коні
да нас падходзяць шчыльным табуном,
ступаючы на сеяныя травы.
На развітанне скажам:
— Эх, сасна,
мемарыяльнай дошкі не хапае
табе
з такім вось надпісам на ёй:
«На гэтым дрэве ў год пяцідзесяты
звінела коням музыка лапаты».

## ЗМЕСТ


Жытняя паляна . . . . . . . . . . . . . . 3
Тварэнне радасці . . . . . . . . . . . . . 5
Дабрыня . . . . . . . . . . . . . . . . . 7
«Няхай не ўсе мне дастаюцца промні...» . . 8
Зара надзеі . . . . . . . . . . . . . . . 9
«Уклаўся нанач вецер за вуглом...» . . . . . 10
«Ну як гэта хуценька ўсё-ткі зрабілася...» . . 11
«Толькі б хаця на адзіны дзянёк...» . . . . 12
«І не апомнішся як след...» . . . . . . . . 13
«Зноўку, зноўку сягоння...» . . . . . . . . 14
Выпускныя экзамены . . . . . . . . . . . 15
«Прыкінь і падумай...» . . . . . . . . . . 16
«Купаюцца зоркі ў паўночнай вадзе...» . . . 17
Дарога . . . . . . . . . . . . . . . . . 18
Перачытваючы «Узнятую цаліну» . . . . . 20
Першыя калгаснікі . . . . . . . . . . . . 22
Сельсавецкі агент . . . . . . . . . . . . 23
Інспектар . . . . . . . . . . . . . . . . 24
Чарнобыльскія перасяленцы . . . . . . . . 25
«І рэкі спрамлялі...» . . . . . . . . . . . 26
Дата пад праўдай . . . . . . . . . . . . 27
Понцій Пілат . . . . . . . . . . . . . . 28
«Усё даводзіць трэба да канца...» . . . . . 29
Рэтраграды . . . . . . . . . . . . . . . 30
Мужчыны ў школе . . . . . . . . . . . . 32
У кнігарні . . . . . . . . . . . . . . . 33
Дамок Мацея Бурачка . . . . . . . . . . . 34
Бацьку . . . . . . . . . . . . . . . . . 35
Утрапенне . . . . . . . . . . . . . . . . 36
«У марыве часу былое захутаў...» . . . . . 37
Было . . . . . . . . . . . . . . . . . . 38
Функцыянер . . . . . . . . . . . . . . . 40
Наконт пацяплення . . . . . . . . . . . . 41
«Хоць прагніла, цячэ...» . . . . . . . . . 42
Рокеры . . . . . . . . . . . . . . . . . 43
Па нотах уласнага сэрца . . . . . . . . . 44

Дэмабілізацыя тараканаў . . . . . . . . . . 45
Кар'ер . . . . . . . . . . . . . . . . . . 47
Хутарскія мышы . . . . . . . . . . . . . 48
Неадпаведнасць . . . . . . . . . . . . . . . 49
«Ёсць Дошка гонару...» . . . . . . . . . . 50
«Мяняю кватэру!» . . . . . . . . . . . . . 51
«Пад урачысты шчыры віскат...» . . . . . . 52
«Дзень сённяшні штось уцякае з вачэй...» . . 53
«Халодныя твары зімой і вясной...» . . . . 54
«Мы першымі прабілі дах нябёс...» . . . . . 55
«І тут павеяў вецер перамен...» . . . . . . . 56
Безыменнасць . . . . . . . . . . . . . . . 57
Старыя дамы . . . . . . . . . . . . . . . . 58
«А ў пакоі маім распаўсюдзіўся холад сабачы...» . . . . . . . . . . . . . . . . . 59
«Здавалася, рад быў свайму сябруку...» . . . 60
Дом творчасці . . . . . . . . . . . . . . . 61
Храм прыроды . . . . . . . . . . . . . . . 62
«На гэты раз суніц паспела многа...» . . . . 63
Зязюльчын голас . . . . . . . . . . . . . . 64
Былы маяк . . . . . . . . . . . . . . . . . 65
«Знак ганаровай вахты — вербалоззе...» . . . . 66
«Штосьці-штосьці на вёсцы парушана...» . . . 67
Лясныя дарогі . . . . . . . . . . . . . . . 68
Заяц у канюшыне . . . . . . . . . . . . . 69
«Сумбурныя, бягуць каровы з пашы...» . . . 70
«Гарэлы лес — ён нібы сірата...» . . . . . . 71
Вяртанне . . . . . . . . . . . . . . . . . . 72
«Канцы з канцамі ледзьве зводзіць лета...» . 73
«Вось толькі зоркі заблішчалі ўвысі...» . . . 74
«Ах, дзядзька, дарэмна даліся на плотку...» 75
Валун . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 76
«Недагаворанасць ва ўсім...» . . . . . . . . 77
«Зусім зняможыўся за дзень...» . . . . . . . 78
«Зелянее, жаўцее трава...» . . . . . . . . . 79
Палеглая збажына . . . . . . . . . . . . . . 80
«Дамоў — паразбіраныя масты...» . . . . . . . 81
«Час — вечны рухавік...» . . . . . . . . . . 82
Пакінутая леснічоўка . . . . . . . . . . . . 83
«Любімага возера родны парог...» . . . . . . 85
Плыт на Віліі . . . . . . . . . . . . . . . 86
«За хмары сонца адплыло...» . . . . . . . . 87
Начныя камбайны . . . . . . . . . . . . . . 88
«Стаю між сосен тых, што ўпершыню...» . . 89
Самотныя сады . . . . . . . . . . . . . . . 90

«Відаць, адчуўшы нецярпенне дрэў...» . . . 91
Над Страчай . . . . . . . . . . . . . . . . 92
«Стамлёны, я ногі свае ледзь валок...» . . . 94
«Што бачна зверху — ўсё не так унізе...» . . 95
«Начная песня позніх жураваў...» . . . . . 96
Позні шыпшыннік . . . . . . . . . . . . 97
Ёлка . . . . . . . . . . . . . . . . . . 98
«Вясёлы такі і задзірысты бег...» . . . . . 100
Заснежаныя ягады . . . . . . . . . . . . 101
«Бяссільна стукаешся ў дом...» . . . . . . 103
«Дзе просьбаю, дзе ледзь не з плачам...» . 104
«Вы толькі фон...» . . . . . . . . . . . 105
«Хоць недзе ўнутры нецярпенне скрабе...» . 107
Трактарыст . . . . . . . . . . . . . . 108
«Нервова кураць, чыркнуўшы запалкай...» . . 109
Рамонтнікі . . . . . . . . . . . . . . 110
Калгасны механік . . . . . . . . . . . 111
Лётчыкі 41-га года . . . . . . . . . . . 113
Севастопаль . . . . . . . . . . . . . . 114
«Ах, людзі, што ў пярэдадзень вайны...» . . 115
«Тытанік» . . . . . . . . . . . . . . . 116
«А можа, ўтаймуй свой пажар утрапення...» 117
Апакаліпсіс . . . . . . . . . . . . . . 118
Вячэрняе . . . . . . . . . . . . . . . 120
Лазерныя шахматы . . . . . . . . . . . 121
«І белым днём, і нават сярод ночы...» . . . 122
«Ах, калі-небудзь, калі-небудзь...» . . . . . 123
Першае спатканне . . . . . . . . . . . 124
За пяць хвілін... . . . . . . . . . . . . 125
«Тваё гэта права...» . . . . . . . . . . . 126
«Успыхнулі й згарэлі словы...» . . . . . . . 127
Двое . . . . . . . . . . . . . . . . . 128
«Гучыць гудок — і ўбок паўзе перон...» . . . 129
Вільня . . . . . . . . . . . . . . . . 130
Маладыя гарады . . . . . . . . . . . . 132
«Ты — як чаромха ў паэтычным сшытку...» . 133
«Другарадныя» паэты . . . . . . . . . . 134
«Настойліва настрой уніз паўзе...» . . . . . 135
«Я — пеўчая птушка...» . . . . . . . . . 136
Рака . . . . . . . . . . . . . . . . . 137
Кушляны — Вязынка . . . . . . . . . . 138
«Якія рыфмы ні знаходзь...» . . . . . . . 140
«На бераг працы і турбот...» . . . . . . . 141
Начлег на разгалай сасне. *Лірычная хроніка даўняга лета* . . . . . . . . . . . . 142

**Дукса М.**

Д 81 Заснежаныя ягады: Вершы і паэма.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 158 с.

ISBN 5-340-00194-6.

Дукса М. Заснеженные ягоды: Стихи и поэма.

Героі вершаў зборніка — нашы сучаснікі: сельскія механізатары, паляводы, настаўнікі. Аўтар стварыў іх псіхалагічныя партрэты, паказвае іх багаты духоўны свет. Паэма «Начлег на разгалай сасне» пераносіць чытача ў пяцідзесятыя гады — пераломны час у жыцці заходнебеларускай вёскі.

Д $\frac{4702120202-012}{M\,302(03)-89}$ 50—89 ББК 84 Бел 7

Литературно-художественное издание

**Д у к с а Марьян Николаевич**
**ЗАСНЕЖЕННЫЕ ЯГОДЫ**

*Стихи и поэма*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**Д у к с а Мар'ян Мікалаевіч**
**ЗАСНЕЖАНЫЯ ЯГАДЫ**

*Вершы і паэма*

Рэдактар *Хв. Д. Жычка*
Мастак *Г. Г. Малышаў*
Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*
Тэхнічныя рэдактары *А. Б Барадзіна,*
*М. Ц. Папкова*
Карэктар *Т. В. Трубач*

ІБ № 3037

Здадзена ў набор 20.07.88. Падп. да друку 10.11.88. АТ 09729. Фармат $70\times90^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,85. Ум. фарб.-адб. 6,00. Ул.-выд. арк. 5,20. Тыраж 3200 экз. Зак. 1685. Цана 80 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.